


# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27 каналаў

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

14 лютага 2014 года №7 (981)



## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### Адкрылі школьную Акадэмію кіравання

**МАЛАДЗЕЧНА.** 12 лютага адкрылі першую ў Беларусі школьную Акадэмію кіравання на базе СШ №14. Яна будзе скіраваная на дадатковую адукацыю па сацыяльна-эканамічным, прыродазнаўча-матэматычным і грамадазнаўча-гуманітарным профілях. У школьную акадэмію прымаюць вучняў 10-11 класаў Маладзечаншчыны, паведамляе сайт аддзела адукацыі.

### Рыхтуюць выставу да Дня жанчын

**СМАРГОНЬ.** Смаргонскі гісторыка-краязнаўчы музей упершыню рыхтуе выставу народных вышывальшчыц, распавяла дырэктар музея **Любоў Белуш**. Запрацуе яна напярэдадні 8 сакавіка. Спадарыня Любоў адзначыла, што кожны можа прынесціць свае працы, каб палюбавацца на іх маглі ўсе. Супрацоўнікі музея будуць імкнуцца размясціць работы так, каб кожнай хапіла месца. Усю дадатковую інфармацыю можна атрымаць у музеі па нумары **(8-01592) 6-19-90.**

### Гандлёвы павільён загарэўся на рынку

**АШМЯНЫ.** Пажар успыхнуў 11 лютага каля гадзіны ночы. Загарэўся прыватны гандлёвы павільён на рынку ў Ашмянах па вуліцы Савецкай, паведамляе сайт МНС. Адкрытым полымем гарэла пабудова з сэндвіч-панэляў з металічным дахам. Павільён быў электрыфікаваны, у панядзелак працаваў. У ім гандлявалі тэкстылем. Прычыну пажару ўстанаўліваюць. Папярэдняя версія – падпал.

### Інваліды самі выберуць працу

**БЕЛАРУСЬ.** Міністэрства аховы здароўя працуе над тым, каб зняць працоўныя рэкамендацыі для інвалідаў. Чалавек з абмежаванымі магчымасцямі зможа вырашаць сам, якую абраць спецыяльнасць і кім працаваць. Пра гэта паведамiў 12 лютага на прэс-канферэнцыі дырэктар Рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтра медэкспертызы і рэабілітацыі **Васіль Смычак**, перадае БелаПАН.

**Аддзел інфармацыі.**



# Аўтобус на Вільню пойдзе з Маладзечна

## Тым часам у Вілейцы маршрут на Вільню пакуль прадумваюць

**ВІЛЕЙКА. Аўтобус Маладзечна-Вільня пойдзе па маршруце на пачатку летняга сезона, распавёў намеснік генеральнага дырэктара па перавозках "Мінаблаўтатрансу" Яўген Ігнатаў.**




Калаж Настассі РОЎДЫ.

**Маладзечанскі аўтавакзал. Магчыма, на пачатку лета людзі тут будуць стаяць у чаканні аўтобуса на Вільню.**

Спачатку аўтобус будзе хадзіць толькі па выхадных, а потым – штодзённа.

Аднак дырэктар маладзечанскага аўтапарку №4 **Яўстафій Каравай** пра гэта ніякай дакладнай інфармацыі не мае:

– Некалі быў аўтобус на Вільню, які выязджаў з Барысава і па дарозе забіраў маладзечанцаў. Аднак з-за недахопу пасажыраў летась восенню гэты маршрут адмянілі. У той час гаварылі і пра магчымасць адкрыцця маршруту Маладзечна-Вільня. Аднак на тым справа спынілася і пакуль нічога дакладна невядома.

### Вілейка-Вільня: ці трэба?

Праз шмат гадоў пачаліся спробы аднавіць маршрут Вілейка-Вільня.

Дырэктар вілейскага аўтапарка №5 **Леанід Гамолка** кажа, што яшчэ невядома, з'явіцца такі рэйс ці не:

– Пакуль што ён у праекце: можа быць, а можа, і не быць. Для таго, каб рэйс з'явіўся, трэба дазвол "Мінаблаўтатрансу", ліцэнзія. Пакуль што мы вывучалі думку жыхароў, ці будзе аўтобус на Вільню карыстацца попытам. Відавочна, што поўнай загрузкі не будзе. Гэта 100 працэнтаў. Адна з прычын – у візавым рэжыме, бо не кожны візу мае. Яшчэ адна – у коштах. Аўтобусам дарога абыдзецца ў два разы даражэй, чым цягніком.

Перад аўтапаркам яшчэ шмат пытанняў, якія трэба вырашыць. Пакуль што няма нават аўтобуса, які б мог перавозіць людзей.

– Нам трэба і спецыяльны, больш камфартабельны транспарт, якога мы цяпер не маем, – працягвае Леанід Гамолка. – Рэйс міжнародны, не танны, таму каб людзі ездзілі, мы павінны стварыць адпаведныя ўмовы. Да таго ж, невядома, як будзе арганізаваная праца з мытняй. Бо калі ўсё будзе залежаць ад чэргаў, натуральна, графік будзе збівацца.

### "Аўтобусы на Вільню былі бітком забітыя"

Віляйчанін **Алег Кулік** шмат гадоў адпрацаваў кіроўцам маршрутнага аўтобуса. Ён добра памятае гады, калі ў Вільню мясцовыя жыхары ездзілі і ездзілі.

– У 90-я гады аўтобус быў вельмі запатрабаваны, – прыгадвае спадар Алег. – Хадзіў цалкам загружаны. А калі вяртаўся з Вільні, то проста не хапала месцаў. І смаргонцы ездзілі гэтым маршрутам, шмат людзей садзілася ў Ашмянах. Аднак калі ўвялі візы, людзі перасталі ездзіць. Маршруты зніклі.

**Сёння, паводле сайта Беларускай чыгункі, білет на цягнік на Вільню з Маладзечна каштуе – 151 100 рублёў, з Мінска – 177 100 рублёў. Паводле інфармацыі "Мінсктрансу", білет на аўтобус з Мінска да Вільні каштуе 170 тысяч рублёў.**

На думку кіроўцы, калі б цяпер аднавілі гэты маршрут, ён карыстаўся б попытам.

– І віляйчане ездзілі б, і смаргонцы, і ашмянцы, – працягвае спадар Алег. – Сёння ж нават проста з Вілейкі ў Смаргонь не даехаць. Увогуле, заўсёды так адбываецца, калі ўводзяць новы маршрут, мяркуюць, што ён будзе нерэнтабельны. У выніку ж заўсёды знаходзяцца ахвотныя паехаць.

**Як адзначыла падчас абмеркавання пагаднення аб спрашчэнні візавага рэжыму і рэадмісіі паміж Еўрасаюзам і Беларуссю кіраўніца прадстаўніцтва ЕС у Беларусі Майра Мора, беларусы першыя па колькасці атрыманых шэнгенскіх віз у свеце пры вельмі малым ліку адмоў.**

**Настасся РОЎДА.**

 



ЁСЦЬ ПРАБЛЕМА

# Пройдзе час – і вернецца “Радзіма”

## Але хто верне назву?




Фота Настассі РОЎДЫ.

Кінатэатр стаў не толькі адным з асноўных цэнтраў адпачынку, але і месцам, ля якога сустракаюцца ў Маладзечне.

**МАЛАДЗЕЧНА. Кінатэатр “Радзіма” паспеў вярнуць статус аднаго з асноўных месцаў сустрэч і баўлення вольнага часу для маладзечанцаў і гасцей горада.**

Калі хочаце трапіць на прэм’еру, пра білет варта паклапаціцца загадзя: за паўгадзіны да сеанса чарга да касы ледзь не выходзіць на вуліцу.

Генеральны дырэктар КУП “Мінаблкінавідэапракату” **Юры Чарнавушка** высока ацэньвае працу маладзечанскай “Радзімы”:

– Мяркую, што да канца года можна будзе гаварыць аб акупляльнасці кінатэатра, ён можа выйсці на такі ўзровень. Маладзечанскі кінатэатр сярод самых сучасных у вобласці. Многія фільмы збіраюць поўную залу. Абнавіўшы яго, мы аснасцілі будынак па апошнім слове тэхнікі і пры гэтым захавалі архітэктурныя асаблівасці аб’екта. Звонку ён амаль такі ж, як дзясяткі год таму, а ўнутры вельмі сучасны. Усе ўмовы для добрай працы мы стварылі. Не думаю, што ў Мінску ёсць лепшыя. У сталіцы не горшыя, вядома, але і не лепшыя.

### Маладзечна – асаблівы выпадак

Дырэктар “Мінаблкінавідэапракату” тлумачыць, чаму менавіта маладзечанскі кінатэатр мае такі попыт:

– Многія кінатэатры ў іншых райцэнтрах наведваюць адны і тыя ж людзі, якіх не так шмат. Маладзечна ж, вядома, – асобны выпадак. Гэта культурная сталіца Міншчыны. Цікавасць да мастацтва высокая. Маладзечна – адзін з самых буйных гарадоў у вобласці. Некалькі год наогул не меў кінапаказу, калі не лічыць відэасалон. Прэм’еры ў Маладзечне паказваюць адначасова, як у Мінску і Маскве.

Як удаецца кінатэатрам захоўваць зацікаўленасць да сябе, калі амаль у кожным доме ёсць тэлевізар і камп’ютар з інтэрнэтам? Дзякуючы сусветнай павуціне можна паглядзець безліч фільмаў, у тым ліку пірацкія версіі прэм’ер.

– Мы наперадзе піратаў, цяпер яны спазняюцца, – адказвае Юры Чарнавушка. – Калі раней у кіно паказвалі фільмы на плёнцы, то піраты апяраджвалі многія кінатэатры. Цяпер жа, калі фільмы запісваюцца ў лічбавым фармаце, мы адначасова паказваем прэм’еры ў многіх кінатэатрах. І менавіта гэтыя першыя некалькі тыдняў дазваляюць выйграваць на рынку.

### Пытанне шыльды не закрытае

Маладзечанцы паспелі ацаніць перавагі кінатэатра знутры. Аднак для многіх незакрытым застаецца пытанне шыльды.

Пасля рэканструкцыі да “Дажынак” кінатэатр адкрыўся праз год пасля свята, 22 верасня 2012 года. Аднак цяпер яго ўпрыгожвала новая шыльда, на якой замест звычнай назвы “Радзіма” з’явілася “Родина”. Перамена выклікала шмат абмеркаванняў, у тым ліку сярод каментатараў на нашым сайце rh.by. Тады гэтую сітуацыю для “РГ” таксама пракаментаваў Юры Чарнавушка:

“Новую шыльду зацвердзіў галоўны архітэктар вобласці **Аляксандр Валовіч**. Маладзечанскі кінатэатр размешчаны ўздоўж пешаходнай вуліцы Прытыцкага. Шыльды ўсіх будынкаў на вуліцы на рускай мове. Таму вырашылі, што на кінатэатры таксама будзе руская, каб не выбівалася з агульнага кантэксту. Гэта не значыць, што мы не любім ці не паважаем беларускую мову. Але ж, напэўна, не гэта галоўнае. Важна, каб маладзечанцам падабалася якасць абслугоўвання, хацелася наведваць установу, каб у ёй добра адпачывалася і было прыемна. Тое, што цяпер кінатэатр мае рускую назву, не значыць, што маладзечанцы больш не ўбачаць назву “Радзіма”. Тэрмін службы такіх шыльдаў – 5-6 гадоў. Магчыма, калі мы будзем замяняць яе ў наступны раз, назва кінатэатра зноў будзе на беларускай мове”.

Сёння мы зноў вярнуліся да гэтай тэмы. Дырэктар “Мінаблкінавідэапракату” дадае:

– Новую шыльду ўзгадняў Мінаблвыканкам. Калі будзе каманда замяніць – заменім.

**– Ці могуць актыўныя жыхары горада ініцыяваць, напрыклад, збор сродкаў для замены шыльды?**

– Мы маем магчымасць замяніць і без збору сродкаў. Разумееце, кінатэатр па тэхпашпарце яшчэ каля 15 гадоў таму значыцца як “Родина”. Гэта на 100% дзяржаўная ўстанова. Мы можам ставіць пытанне перайменавання кінатэатра перад Галоўным упраўленнем ідэалагічнай работы. Але пакуль мы спыніліся на такім варыянце. Зразумейце, ад гэтага нічога ўнутры не пагоршыцца. Я люблю беларускую мову, вельмі добра размаўляю на ёй, але не варта быць настолькі катэгарычнымі. Пройдзе час – і вернецца “Радзіма”.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

**РЭДАКЦЫЯ. А што думаеце вы? Выказвайцеся ў каментарах на сайце** Rh.by

МЕРКАВАННЕ

## “Радзіма” – гэта традыцыя

Як ацэньваюць сітуацыю з шыльдай кінатэатра беларускамоўныя маладзечанцы, мы спыталіся ў краязнаўцы і пісьменніка **Міхася Казлоўскага**:

– Я за тое, каб захаваць традыцыю, а традыцыя ёсць у назве “Радзіма”, якая падкрэслівае нашу нацыянальнасць. Калі шчыра, у мяне нават няма слоў, каб патлумачыць, чаму я за “Радзіму”. Здаецца, гэта і так зразумела. Я ў гэтым пытанні адназначны і няма тут чаго абмяркоўваць. Для мяне міла ўсё, што гучыць па-беларуску. Аргумент наконт таго, што па ўсёй вуліцы рускамоўныя шыльды, проста не працуе.

ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Дзе больш прыемна сустракацца: ля “Радзімы?” ці “у “Родины”?



**Кацярына Дзятлава, настаўніца:**

– Ля “Радзімы”. І “у “Родины” можна таксама. І так, і так добра. Аднак назву “Радзіма” кінатэатру вярнуць варта, каб людзі ведалі беларускую мову.



**Наталля Мялюк, мастак-мадэльер:**

– Я заўсёды памятала гэты кінатэатр, як “Родина”. Нават калі мы ў дзяцінстве хадзілі на дэманстрацыю, кінатэатр меў рускую назву. Таму я, мабыць, сустракаюся каля “Родины”. Аднак падтрымліваю перамены і за змену назвы на беларускую “Радзіма”.



**Галіна Сімановіч, пенсіянерка:**

– “У “Родины”. Мне, у прынцыпе, якая розніца, па-руску ці па-беларуску назва. Большую частку жыцця правяла ў Северадзвінску.



**Віталь Надудзік, юрыст:**

– Ля “Радзімы”. Так больш правільна. І лепей было б перайменаваць кінатэатр. Хоць у нас і дзве дзяржаўныя мовы, усё на рускай. Беларускай мовы і так амаль нідзе не засталося. Усе назвы па-руску. Таму я за “Радзіму”. І гучыць прыгажэй.



**Павел Вайноўскі, энергетык:**

– “У “Родины”. Расія дае сваё. Усе па-руску размаўляюць, адсоткаў на 99. Таму чаму тут здзіўляцца? Калі б размаўлялі па-беларуску, мабыць, і не атрымалася б назва “Родина”.



**Віталь Хасаншын, інжынер:**

– Ля “Радзімы”. Так правільна. Назва кінатэатра павінна быць па-беларуску. Мы жывём у Беларусі, таму для мяне гэта прынцыповае пытанне.

**Падрыхтавалі Наталля ТУР, Настасся РОЎДА.**



 

● КАМУНАЛЬНАЯ КРАІНА

# Недахоп прыбіральшчыкаў – слабае месца

**МАЛАДЗЕЧНА. Прыбіральшчыкаў у домакіраўніцтвах горада не хапае, таму камунальнікі вітаюць ініцыятывы жыхароў з дзяжурствамі.**

З тым, хто павінен прыбіраць пад'езды і двары шматпавярховак, дапамагла разабрацца начальніца жыллёвага аддзела "Камунальніка" **Вольга Шыцік**:

– Прыбіраць пад'езды павінны прыбіральшчыкі з домакіраўніцтва, да якога адносіцца дом. На жаль, прыбіральшчыкаў у нас не хапае, гэта наша слабае месца. Таму мы толькі вітаем, калі самі жыхары складаюць графік дзяжурстваў і самі даглядаюць пад'езд. Яны могуць гэта рабіць, але не абавязаныя.

Дворнікі і прыбіральшчыкі – розныя пасады з рознай сферай адказнасці. Калі дворнік адказвае за чысціню каля дамоў, то прыбіральшчык – у пад'ездах. Цяпер дворнікам спрабуюць дадаць і абавязкі прыбіральшчыкаў.

Распрацаваны спецыяльны рэгламент, які рэгулюе прыбіранне. Мы прыводзім некаторыя пункты ніжэй.

Часам людзі проста не ведаюць, куды звяртацца з пэўнымі пытаннямі. Многія можа вырашыць ЖКГ. Калі вам трэба, напрыклад, зашкліць вокны ў падвале ці знішчыць мышэй ці прусакоў – можаце звяртацца ў домакіраўніцтва.

Яшчэ пытанне – куды выкідаць буйныя прадметы, напрыклад, канапу, халадзільнік. З гэтым пытаннем можна звярнуцца ў камунальны аддзел "Камунальніка" па тэлефоне **8 (0176) 73-19-17.**

**Зоя ХРУЦКАЯ.**


Фота samarskievesti.ru.

**Пакуль адны чакаюць, калі праблему з прыбіраннем пад'ездаў вырашыць жыллёва-камунальная ўстанова, іншыя сочаць за чысцінёй самі.**

## Правілы прыбірання

**Наступныя правілы тэхнічнага абслугоўвання, распрацаваныя ў пастанове Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі ад 20 мая 2013 года.**

**Санітарныя работы ў дапаможных памяшканнях дамоў (пад'езды)**

| | | |
|---|---|---|
| 1 | Мыць вокны | Раз на год, вясной |
| 2 | Рабіць сухое прыбіранне смецця | Не менш за два разы на тыдзень |
| 3 | Мыць лесвічную пляцоўку без абсталявання (звычайнай анучай) | Два разы на месяц |
| 4 | Мыць лесвічную пляцоўку з ліфтам | Два разы на месяц |
| 5 | Мыць лесвічную пляцоўку з ліфтам і смеццеправодам | Два разы на месяц |
| 6 | Прыбіраць кабіны ліфтаў | Раз на пяць дзён |
| 7 | Абмятаць пыл са столі, праціраць сцены вільготным спосабам, а таксама дзверы, плафоны, ацяпляльныя прыборы | Раз на год |
| 8 | Прыбіраць падвалы, тэхнічныя падполлі, гарышчы, тэхнічныя паверхі, тэхнічныя памяшканні і памяшканні спецыяльнага прызначэння | Два разы на год |
| 9 | Дэзінсекцыя (знішчэнне насякомых) | Па меры неабходнасці, адпаведна з заяўкамі |
| 10 | Дэратызацыя (знішчэнне грызуноў) | Па меры неабходнасці, адпаведна з заяўкамі |

**Асноўныя віды работ па прыбіранні каля дамоў вясной, летам і восенню**

| | | |
|---|---|---|
| 1 | Падмятаць прыдамавую тэрыторыю з пакрыццём | Раз на два дні |
| 2 | Падмятаць прыдамавую тэрыторыю без пакрыцця | Раз на тры дні |
| 3 | Прыбіраць пляцоўку смеццевага кантэйнера | Раз на суткі |
| 4 | Прыбіраць газоны ад лісця, галінак, смецця | Раз на два дні летам і восенню |
| 5 | Касіць газон ад мая па верасень | Не радзей аднаго разу на месяц |
| 6 | Чысціць участак механізаваным прыбіраннем | Раз на два дні |
| 7 | Чысціць урны ад смецця | Раз на дзень |

**Асноўныя віды работ па прыбіранні каля дамоў зімой**

| | | |
|---|---|---|
| 1 | Падмятаць свежавыпаўшы снег таўшчынёй слою да 2 см | Не радзей аднаго разу на суткі |
| 2 | Чысціць прыдамавую тэрыторыю ад шчыльнага снегу таўшчынёй да 2 см | Не радзей аднаго разу на суткі |
| 3 | Чысціць прыдамавую тэрыторыю ад наледзі і снегу | Адзін раз на суткі |
| 4 | Чысціць прыдамавую тэрыторыю ад наледзі і снегу | Пры механізаванай уборцы |
| 5 | Прывезці і пасыпаць прыдамавую тэрыторыю пяском ці пясчана-солевай сумессю | Па меры неабходнасці |
| 6 | Прыбіраць пляцоўку смеццевых кантэйнераў | Раз на суткі |
| 7 | Прыбіраць газоны ад выпадковага смецця | Раз на тыдзень |

● У КАМІТЭЦЕ ДЗЯРЖКАНТРОЛЮ

# У гаспадарках псуецца сілас

**МАЛАДЗЕЧНА. Якасці нарыхтаванага кукурузнага сіласу бракуе ў значнай ступені з-за парушэння тэхнічнага рэгламенту падчас нарыхтоўкі.**

Перавышаныя тэрміны закладкі траншэй удвая, сілас няякасна ўтрамбоўвалі, не выкарыстоўвалі кансерванты.

У таварыстве "Купала-Агра" заклалі з перавышэннем тэрміну да 11 дзён больш за восем тон, ці каля 90% усяго сіласу. На ферме "Гарнякі" тры тоны сіласу закладвалі 15 дзён, а паўтары тоны – 11 дзён. А павінны былі за чатыры дні.

**Кукурузны сілас – адзін з асноўных і аб'ёмістых кармоў жвачных жывёлін, напрыклад, кароў. Яго вытворчасць у Беларусі дасягае 20 мільёнаў тон.**

Такія самыя парушэнні ёсць і ў іншых прадпрыемствах і арганізацыях: "Сасноўка-Агра", "Бярэзіна-аграпрадукт", "Хоўхлава".

Да таго ж, у раёне не выконваюць даручэнне прэзідэнта, якое забараняе захоўваць кармы ў наземных буртах ці курганах, у заглыбленых траншэях.

Аднак менавіта так захоўваюць увесь нарыхтаваны сілас у "Сасноўцы-Агра", большая частка ў СВК "Хоўхлава" і "Бярэзіна-аграпрадукт".

Пры такім захоўванні губляецца ад 30 да 50% пажыўных рэчываў.

Практычна ва ўсіх гаспадарках раёна не надаюць належнай увагі стану траншэй, буртоў. Звычайна сельгасарганізацыі іх не агароджвалі, на некаторых пашкоджанае пакрыццё, а значыць, герметызацыя корму была парушаная. У некаторых месцах сілас пачаў псавацца.

**Паводле паведамлення Маладзечанскага міжраённага камітэта дзяржкантролю.**

| **Курсы валют НБ РБ** | **6.02** руб. | **13.02** руб. |
|---|---|---|
| **Долар ЗША** | 9 660,00 | **9 690,00** |
| **Еўра** | 13 050,00 | **13 210,00** |
| **Злоты** | 3 111,26 | **3 168,27** |
| **Літ** | 3 783,49 | **3 826,26** |
| **Расійскі рубель** | 276,50 | **279,00** |
| **Грыўня** | 1 088,45 | **1 108,06** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| **Долар ЗША** | **9610/9665** | **9640/9700** |
| **Еўра** | **12980/13060** | **13120/13220** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| **ПРАДУКТЫ** | **5.02** | **12.02** |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | 119100 | **105500** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 45050 | **58050** |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | 23800 | **25800** |
| **Ялавічына**, (выразка), 1 кг | 66000 | **80000** |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 28500 | **28500** |
| **Селядзец**, 1 кг | 32500 | **32500** |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 93500 | **89000** |
| **Рыс**, 0,9 кг | 9500 | **9500** |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 7700 | **9500** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 13000 | **13000** |
| **Алей** | 14500 | **12000** |
| **Маянэз**, 200 г | 5000 | **5000** |
| **Соус "Мінскі"**, 0,5 л | 7700 | **7500** |
| **Кава "Nescafe"**, 100 г | 30000 | **28000** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 9750 | **10000** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 6000 | **6200** |
| **Капуста**, 1 кг | 4500 | **5500** |
| **Морква**, 1 кг | 5000 | **6500** |
| **Буракі**, 1 кг | 4500 | **6000** |
| **Лімоны**, 1 кг | 20000 | **20000** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 13500 | **13000** |
| **Мандарыны**, 1 кг | 12000 | **16500** |
| **Памідоры**, 1 кг | 26500 | **24000** |
| **Агуркі**, 1 кг | 37500 | **26000** |
| **Перац**, 1 кг | 32000 | **30500** |
| **Вінаград**, 1 кг | 20000 | **24900** |
| **Бананы**, 1 кг | 12500 | **13000** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 9000 | **9000** |
| **Грушы**, 1 кг | 17000 | **17900** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 13500 | **13500** |
| **Масла**, 1 кг | 80000 | **80000** |
| **Тварог**, 1 кг | 42000 | **42000** |
| **Бульба**, вядро 5 л | - | **20000** |
| **Сала**, 1 кг | 55000 | **55000** |
| **Мёд**, 0,5 л | 50000 | **50000** |

● СЛУЖБА 101

# Найчасцей у пажарах гінуць з-за неасцярожнасці і п’янства

**МАЛАДЗЕЧНА. Кожнаму трэба клапаціцца пра сваю бяспеку, у тым ліку пажарную.**

Пра тое, як пазбегнуць трагедыі, у аўторак, 11 лютага, распавёў начальнік Маладзечанскага гаррайаддзела МНС **Вячаслаў Грынь**.

– Сёлета абстаноўка з пажарамі ў нас не катастрафічная. Леташні студзень у гэтым плане атрымаўся вельмі “гарачы”, адбылося 11 пажараў, загінула восем чалавек. Практычна кожны выезд на пажар суправаджаўся гібеллю людзей. У тым ліку загінула адно дзіця. У гэтым годзе мы бачым зніжэнне: шэсць пажараў, загінуў адзін чалавек.


Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Вячаслаў Грынь, начальнік маладзечанскага гаррайаддзела па надзвычайных сітуацыях.


Фота забяспечана Вячаславам ГРЫНЕМ.

Кожны пажар – трагедыя, ён знішчае тое, што не вернеш ніколі. Няхай сёлета статыстыка не катастрафічная, але кожны павінен падумаць, ці ўсё зрабіў для таго, каб яго сям’я была ў бяспецы.

**У параўнанні з мінулым годам, сёлета на 50% менш пажараў і на 80% менш загінула людзей.**

**– Як выглядае абстаноўка ў параўнанні з вобласцю?**

– Сёлета ў нас адны з лепшых паказчыкаў. Хваліцца не будзем, гэта работа па прафілактыцы, якая праводзіцца ўвесь час. Напэўна, вынікі нашай працы ёсць, але мы ніколі не робім паспешлівых высноў, што ў нас усё добра, можна расслабіцца і нічога не рабіць. Статыстыка можа ў любы момант пагоршыцца. Але пакуль у нас стабільная абстаноўка. Сёлета на Міншчыне гібель дзяцей не дапусцілі.

**Ад пачатку 2014 года ў рэспубліцы было 1053 пажары, што на 20% больш, чым летась. Загінула 169 чалавек, у тым ліку чатыры дзіцяці. Гэта на 13% больш. На Міншчыне было 213 пажараў, на восем больш, чым летась**

**– Наколькі высока вы ацэньваеце эфектыўнасць прафілактыкі пажараў?**

– Наша праца скіраваная на эфектыўнасць прафілактыкі – калі асабіста гаворыш з людзьмі і бачыш гэту праблему знутры. Працаваць агульным ахопам, праз агульныя фразы недастаткова. Цяпер мы практычна імкнёмся дастукацца да кожнага, каб указаць на тое, з-за чаго можа ўзнікнуць пажар. Магчыма, прафілактыка ўжо дае свае вынікі. Не хачу сурочыць, але сёлета ёсць зніжэнне і пажараў, і гібелі людзей.

**– Як практычна вы праводзіце прафілактыку, проста прыходзіце ў дамы?**

– Тут задзейнічаны не толькі мае работнікі, але і райаддзел міліцыі, сацыяльная служба, адукацыя, медыцына, энерганагляд, назіральныя камісіі пры сельвыканкамах. Прадстаўнікі гэтых службаў праводзяць агляд адначасова па ўсіх пунктах, комплексна, у тым ліку па супрацьпажарнай бяспецы.

Той жа настаўнік прыходзіць, ацэньвае, ці мае дзіця ўсе ўмовы для вучобы, ці хапае прадуктаў. Заадно паглядзіць, ці працуе аўтаномны пажарны апавяшчальнік, як паліцца печ. Вiдавочныя праблемы з пажарнай абстаноўкай бачныя адразу. Асаблівую ўвагу мы надаём прыватнаму сектару, а таксама шматдзетным сем’ям і сем’ям у сацыяльна небяспечным становішчы.

**За парушэнне правілаў пажарнай бяспекі фізічная асоба нясе адміністрацыйную адказнасць. Пакаранне – да 30 базавых велічынь (3 мільёны 900 тысяч рублёў).**

Для катэгорыі сацыяльна ўразлівых сямей, напрыклад, шматдзетных, адзінокіх, інвалідаў, мы самі ўсталёўваем апавяшчальнікі. Ім застаецца раз на год мяняць элемент сілкавання. Праз год апавяшчальнік падае сігнал, што трэба замяніць батарэйку. На жаль, некаторыя дастаюць батарэйку і не замяняюць яе.

**– Якая самая частая прычына пажараў?**

– Летась было 67 пажараў, і з іх 37 з-за неасцярожнага абыходжання з агнём. Сярод 17 загінулых 13 былі нецвярозымі. 12 чалавек загінулі з-за курэння ў нецвярозым стане. Быў выпадак, што заснулі два чалавекі нецвярозыя, адзін з іх – з цыгарэтай. Ні адзін, ні другі не прачнуліся.

Здараецца, што гаспадары зайшлі ў хлеў ці павець, пасвяцілі запалкай і кінулі яе – і загарэлася пабудова. Гэта таксама неасцярожнае абыходжанне з агнём.

Праводзіць прафілактыку ў гэтым кірунку складана. Калі чалавек нецвярозы, то губляе пільнасць і дапускае такія парушэнні, якія прыводзяць да трагічных вынікаў.

**Сёлета на два пажары больш з-за электраабсталявання, затое ў два разы менш з-за пячнога ацяплення.**

Шмат сродкаў выдзяляецца, у тым ліку і райвыканкамам, на рэкламныя шчыты, лістоўкі, ролікі на гэтую тэму. Напэўна, інфармацыя ў такім выглядзе больш зразумелая, лепш жа адзін раз пабачыць.

**– Які сродак пажарнай бяспекі самы эфектыўны?**

– Перш гэта аўтаномны пажарны апавяшчальнік. Ён рэагуе на дым і падае вельмі моцны сігнал. Падчас сну чалавек не чуе паху дыму і можа загінуць у пажары. Але апавяшчальнік ён пачуе і зможа ўратавацца.

Цяпер мы пайшлі яшчэ далей. Робім такія самыя апавяшчальнікі, але аб’ядноўваем іх у сетку і выводзім яшчэ і на фасад. Таму сігнал будзе не толькі ўнутры дома, але і звонку. Яго пачуюць і суседзі, і людзі, якія непадалёк.

Такі апавяшчальнік асабліва падыходзіць сем’ям, дзе выхоўваюць дзяцей. Здараецца, што бацькі ўсё ж пакідаюць дома іх адных. Гэта добры сродак і для адзінокіх, для інвалідаў, якім складана рухацца. Я думаю, гэта самы эфектыўны спосаб. Мы ўжо ўсталявалі такія апавяшчальнікі для 105 дамоў у раёне.

**– Здараліся выпадкі, калі дзеці гінулі, таму што ў доме ўспыхнуў пажар, а бацькі замкнулі дзверы. Ці можаце вы параіць не замыкаць дзверы, калі бацькі некуды ідуць?**

– Летась быў такі выпадак у Хоўхлаве. Маці пайшла на работу, а муж пайшоў у краму і замкнуў пяцігадовае дзіця. У хаце палілася печ. Дзіця знайшлі каля ўваходу. Хлопчык хацеў выйсці, але, на жаль, не змог.

Прычына пажару, найбольш верагодна, – дзіцячае свавольства. Асабліва ў прыватным сектары сутыкаемся з тым, што дзяцей пакідаюць без нагляду. За гэта прадугледжаная крымінальная адказнасць.

У першую чаргу трэба думаць пра дзіця, але і закон таксама можа прымусіць задумацца.

Я раю пакідаць дзяцей толькі пад наглядам дарослых. У вёсках бацькі ідуць на працу рана. Могуць дапамагчы бабулі, дзядулі, трэба вадзіць дзіця ў садок. Іншага не дадзена – толькі пад наглядам дарослых. У Маладзечне ёсць садок, які працуе кругласутачна, там можна пакінуць дзіця, з гэтым большая праблема ў вёсках.

**У садку №6 па вуліцы Маякоўскага, 5 ёсць група, якая працуе кругласутачна. Каб яе наведваць, трэба загадзя аформіцца.**

**– Калі людзі самі не могуць парамантаваць печ, яны могуць звярнуцца па дапамогу да вас?**

– Ёсць арганізацыі, якія выконваюць такія работы – замену правадкі, рамонт пячнога ацяплення. З бюджэтных сродкаў гэта робяць для адзінокіх, сталых людзей, інвалідаў, шматдзетных сямей. Можна званіць у маладзечанскі гаррайаддзел МНС ці ва ўпраўленне па працы і занятасці. Мы накіруем, да каго звярнуцца.

**– Што трэба зрабіць, каб адчуваць сябе ў бяспецы?**

– Больш адказна ставіцца да выканання правіл пажарнай бяспекі. Часта здарэнні адбываюцца з-за нядбайнасці. Перад кожным ацяпляльным сезонам трэба праверыць пячное ацяпленне, каб не было расколін, пабяліць комін на гарышчы, прыбіць ліст бляхі перад топкай. Праверыць электраправодку, каб не было аголеных правадоў. У памяшканнях, дзе захоўваецца паліва, свяцільнікі павінны быць закрытыя плафонамі. Калі лямпачка лопне, іскра можа трапіць на паліва.

Варта ўстанавіць пажарны апавяшчальнік. Удзяляць увагу электрапрыборам. Двое пенсіянераў у вёсцы Адамавічы летась загінулі з-за кароткага замыкання ў маразільніку. Яны задыхнуліся ў дыме. Кожны электрапрыбор мае тэрмін эксплуатацыі, пасля якога яго варта замяняць ці не выкарыстоўваць.

**– Здараецца, чалавеку падаецца, што ёсць пажар, але аказалася, што пажару няма. За такі выклік давядзецца плаціць?**

– Часам на марозе з вентыляцыі ідзе пара, а людзям падаецца, што гэта дым. Мы выязджаем, глядзім. Потымператэлефаноўваем чалавеку, дзякуем за званок і пільнасць, тлумачым, што гэта была пара. Нічога страшнага няма, за гэта нічога не будзе. Іншая справа, калі чалавек пазваніў без прычыны. Нават пытаюцца, ці правільна суседзі касцёр паляць – мы правяраем. Баяцца не трэба, лепш мы праедзем і разбяромся. У гэтай справе лепш перастрахавацца.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

## Калі пакінуць дзіця адно, можна трапіць за краты

Чалавек лічыцца вінаватым, калі мог дапамагчы малому, старому, хвораму ці бездапаможнаму і быў абавязаны клапаціцца, але пакінуў без дапамогі ў небяспечным для жыцця стане, пазбавіў магчымасці прыняць меры да самазахавання. Ён можа быць пакараны арыштам ці абмежаваннем свабоды да двух год.

Калі заведама пакінуў у небяспецы ці сам па неасцярожнасці ці з ускосным намерам паставіў пацярпелага ў небяспечнае для жыцця і здароўя становішча – караецца арыштам да шасці месяцаў ці пазбаўленнем свабоды да трох год.

**Артыкул 159 Крымінальнага кодэкса.**

МЕДЫЦЫНА

# Акушэрку на роды везлі і з царквы, і з лесу



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Ганна Малiеўская, акушэрка з Княгiнiна з 57-гадовым стажам.

**МЯДЗЕЛ. Ганна Малiеўская ўсё жыццё працуе на адной пасадзе – акушэркай, у адной вёсцы – у Княгiнiне. А галоўнае ў тым, колькi часу яна гэта робiць: больш за 57 год!**

Родам яна з Драгiчынскага раёна. Вучылася ў Баранавiцкiм медвучылiшчы. У Княгiнiн прыехала працаваць у 1956 годзе.

– Увесь наш курс адправiлi працаваць у тагачасную Маладзечанскую вобласць. Я выбрала Княгiнiн, бо тут чыгунка была: дамоў так лепш дабiрацца. Прыехала ў вёску позна, а нiкога ж не ведаю. Пайшла наўздагад у першы дом ля вакзала. Прынялi мяне добра: прытулiлi, пакармiлi. А назаўтра паказалi як да фельчарска-акушэрскага пункта iсцi. А ў ФАПе толькi фельчар i я. I ўжо праз дзён шэсць першыя роды давялося прымаць.

Адразу дома роды прымалi – бальнiца ў Княгiнiне толькi ў 1963 годзе з'явiлася.

**– А якiя з родаў найбольш запомнiлiся?**

– Розныя роды бывалi, i складаныя – а я адна. I сядзiш суткамi, перажываеш: "Госпадзi, каб толькi ўсё добра было".

Нядаўна адна з жанчын сказала ўнучцы: "Каб не Ганна Iванаўна, тваёй мамы i цябе не было б на свеце". А справа была так. Зiмой акушэрка прыняла роды ў вёсцы, вырашыла ля парадзiхi застацца начаваць. I добра, што засталася: немаўлятку стала горш. Заўважыла гэта. Муж парадзiхi запрог каня, i павезлi ў бальнiцу ў Крывiчы. Зiма, сумётаў намецена. Але ўсё закончылася добра.

**– А што для сябе галоўным лiчылi ў працы?**

– Добрыя адносiны да людзей. Не глядзела, што дома працы хапае, свае дзецi растуць – дачка i сын. Бывае, толькi печку распалiш, а ўжо па выклiку ехаць трэба – што ж, залiваеш печку вадой. Мой, не мой участак – нiкому не адмаўляла. I знайсцi маглi ў любым месцы. Не толькi дома, а i ў царкве, i ў лесе.

Аднойчы пайшла ў грыбы, чую, побач нехта на матацыкле едзе. Дай, думаю, падыду. Выйшла. А мужчына з Восава мяне шукае. Жонка раджае, ён да мяне дамоў паехаў. Свякроў сказала, што я ў грыбы пайшла, то ён у лес паехаў шукаць.

Запытаў у Ганны Iванаўны, колькi ж усяго немаўлятак прыняла за сваё жыццё. Ой, шмат, кажа, але нiколi нейк не лiчыла. I ўжо бывае не ўспомнiць жанчыну, а тая падыдзе, падзякуе: "А вы ж у мяне дзетак прымалi".

А мужчыны iншае пры сустрэчы ўспамiнаюць. Пра тое, як яна прыязджала на веласiпедзе прышчэпкi рабiць (бо не толькi роды прымала, а маленькiмi дзецьмi апекавалася): "Калi былi малыя, то як убачым яе чырвоную "дамку" ў пачатку вёскi, то хаваемся. Бо ведаем, што прыехала прышчэпкi рабiць. I мацяркам даводзiлася дапамагаць нас лавiць".

Шкадуе Ганна Iванаўна, што меншае людзей у вёсцы.

– Не параўнаць з тым, колькi раней жанчын нараджалi. Пастаянна было па 25-30 цяжарных на ўлiку, а зараз добра, калi 10, а то i па тры бывае. Такi ў мяне абход быў – у адным Княгiнiне паўтары тысячы людзей жыло. А яшчэ ж i суседнiя вёскi. Сто родаў у год магло быць.

Вядома, Ганна Малiеўская даўно ўжо не прымае роды: ёсць на гэта цэлае аддзяленне ў Мядзеле. Цяпер яна працуе акушэркай на прыёме. Прыемна Ганне Iванаўне, што яе досвед цэняць, што яе дыягназы пацвярджаюцца.

**– А не шкадуеце, што ўсё жыццё такой працы аддалi?**

– Не шкадую, хоць i вельмi неспакойная праца. Нават некалькi год даводзiлася разам са сваiмi выконваць абавязкi загадчыцы амбулаторыi. Некалi заехалi дактары з Мiнска, здзiўлялiся: "Вы ўжо на дзве пенсii адпрацавалi". Ужо не раз сыходзiць хацела. Ды i доктар, i калектыў у нас добрыя: заўсёды дапамогуць. То папросяць, яшчэ i застаюся. Але трэба ўжо развiтвацца з працай.

**Алесь ВЫСОЦКI.**

**Меркаванне калегi**

Падзялiлася доктар агульнай практыкi загадчыца Княгiнiнскай амбулаторыi **Ала Кудашова**:

– Ганна Iванаўна – вельмi добры i добразычлiвы чалавек, надзвычай уважлiвая: i ў калектыве, i да людзей. I досвед вялiкi мае.

КОНКУРСЫ

## Другое месца навучэнцаў вiлейскага каледжа

**ВIЛЕЙКА. Ад 29 па 31 студзеня на Капыльшчыне праходзiў другi, абласны, этап рэспублiканскага конкурсу прафесiйнага майстэрства па спецыяльнасцi "Электраманцёр па рамонце i абслугоўваннi электраабсталявання".**

У iм прынялi ўдзел навучэнцы трэцяга курса Вiлейскага дзяржаўнага прафесiйна-тэхнiчнага каледжа **Аляксей Смаленскi**, **Андрэй Кеда**, **Уладзiмiр Генбура.**

У конкурсе таксама ўдзельнiчалi каманды з Барысава, Капыля, Слуцка, пасёлка Беразiнскае, педагогаў... паведамiла выкладчыца спецдысцыплiн каледжа **Таццяна Бажко**.

Ад кожнай навучальнай установы было па тры ўдзельнiкi. Конкурс складаўся з двух тураў – тэарэтычнага i практычнага, дзе кожнаму вучню неабходна было сабраць электрычную схему на сучасных навучальных стэндах.

Па вынiках двух тураў каманда вiлейскага каледжа заняла другое агульнакаманднае месца, трэцяе месца ў асабовым залiку заваяваў Аляксей Смаленскi.

Аляксей Смаленскi i Уладзiмiр Генбура прымуць удзел у падрыхтоўцы да трэцяга этапу рэспублiканскага конкурсу, дзе будуць абараняць гонар Мiнскай вобласцi.

**Аддзел iнфармацыi.**

СЛУЖБА 104

## Газ. Памочнiк i люты вораг

**Прыродны газ на 98% складаецца з метану, якi амаль цалкам вызначае ўласцiвасцi i характарыстыкi прыроднага газу, а таксама прапану С3Н8, этану С2Н6 i бутану С4Н10. Часам ён можа ўтрымлiваць серавадарод, гелiй i вуглякiслы газ.**

Метан – газ, якi не мае колеру, смаку i паху, лягчэйшы за паветра. Ён гаручы, але даволi лёгка захоўваецца. Часцей за ўсё выкарыстоўваецца як гаручае у прамысловасцi i быце. У склад метану ўваходзiць 75% вугляроду i 25% вадароду; маса 1 кубiчнага метра метану роўная 0,717 кг. Пры атмасферным цiску i тэмпературы -162 ° С метан сцiскаецца i яго аб'ём памяншаецца амаль у 600 разоў.

Звадкаваны вуглевадародны газ утварае з паветрам выбухованебяспечную сумесь пры канцэнтрацыi пароў прапану ад 2,1 да 9,5%, нармальнага бутану ад 1,5 да 8,5% (па аб'ёме), пры цiску 98066 Па (1 атм.) i тэмпературы 15-20°С. Гэта значыць, што ў межах гэтай канцэнтрацыi ў памяшканнi можа адбыцца выбух, звыш верхнiх межаў – памяшканне становiцца пажаранебяспечным.

Без прыроднага газу сёння нельга ўявiць наш быт. Аднак не трэба забываць, што газ з памочнiка можа ператварыцца ў лютага ворага.

Гаручыя газы (прыродны i звадкаваны) могуць успыхваць або ўзрывацца, калi яны змяшаныя ў пэўных суадносiнах з паветрам i нагрэтыя не нiжэй за тэмпературу iх узгарання. Узгаранне i далейшае гарэнне газапаветранай сумесi пры пэўных суадносiнах газу i паветра магчыма толькi пры наяўнасцi крынiцы агню (нават iскры).

Асноўнай прычынай утварэння выбухованебяспечнай газапаветранай сумесi з'яўляюцца ўцечкi газу з сiстэмы газазабеспячэння i асобных яе элементаў (механiчнае разбурэнне газаправодаў або карозiя металу трубы, няшчыльнасць закрыцця запорнай арматуры, знос сальнiкавых ушчыльненняў засавак, негерметычнасць зварных, фланцавых i разьбярных злучэнняў, кранаў, лiчыльнiкаў, шлангаў i г.д.).

Для таго каб своечасова выявiць уцечку, гаручыя газы падвяргаюць адарызацыi, гэта значыць, надаюць iм рэзкi спецыфiчны пах, па якiм iх лёгка выявiць нават пры нязначнай канцэнтрацыi ў паветры памяшканняў. Адарызацыя газаў праводзiцца з дапамогай спецыяльных вадкасцяў, якiя маюць моцны пах. Найбольш часта ў якасцi адаранта ўжываюць этылмеркаптан. Пах этылмеркаптану можна параўнаць з пахам пратухлай кiслай капусты або тухлых яек. Пры гэтым пах газу павiнен адчувацца пры канцэнтрацыi яго ў паветры не больш за 1/5 часткi нiжняй мяжы выбуховасцi. Практычна гэта азначае, што прыродны газ, якi мае нiжнюю мяжу выбуховасцi, роўную 5%, павiнен адчувацца ў паветры памяшканняў пры 1-працэнтнай канцэнтрацыi. Пах звадкаваных газаў павiнен адчувацца пры 0,4-працэнтнай канцэнтрацыi iх у аб'ёме памяшкання.

З мэтай недапушчэння надзвычайных сiтуацый на аб'ектах газаразмеркавальнай сiстэмы i газаспажывання ў кожнай газазабеспячэнцкай арганiзацыi створаныя спецыялiзаваныя падраздзяленнi (аварыйныя службы) з кругласутачным рэжымам працы, уключаючы выхадныя i святочныя днi, якiя забяспечваюць прыём паведамленняў па нумары 104 аб iнцыдэнтах i аварыях на аб'ектах сiстэмы газазабеспячэння i газаспажывання.

**Што рабiць, калi ў памяшканнi адчуваецца пах газу?**

Нi ў якiм разе не запальвайце запалку i не карыстайцеся iншымi крынiцамi адкрытага агню для пошуку месца ўцечкi. Не курыце!

Пры з'яўленнi ў кватэры паху газу неадкладна спынiце карыстанне газавым абсталяваннем (перакрыйце краны перад газавым абсталяваннем i на iм (або вентыль балона), адчынiце вокны для праветрывання памяшкання, неадкладна паведамiце ў спецыялiзаванае падраздзяленне газазабеспячэнцкай арганiзацыi (але не з загазаванага памяшкання, з iншага).

**Пры выяўленнi паху газу ў падвале, пад'ездзе неабходна вывесцi пабочных асоб з загазаванай зоны, расказаць навакольным пра меры бяспекi; паведамiць у спецыялiзаванае падраздзяленне газазабеспячэнцкай арганiзацыi (не з загазаванага памяшкання); праветрыць пад'езд, падвал да прыбыцця аварыйнай брыгады спецыялiзаванага падраздзялення газазабеспячэнцкай арганiзацыi. Забараняецца ўключаць i выключаць электраасвятленне, электрапрыборы, карыстацца адкрытым агнём, тэлефонам.**

Калi вы хочаце знайсцi месца ўцечкi, карыстайцеся старым праверанымi спосабам: нанясiце мыльную пену на падазронае месца. Там, дзе газ выходзiць, будуць бачныя бурбалкi.

I яшчэ вельмi важна – нiякiх рэдуктараў, трубачак, а асаблiва – выпадковых людзей. Хай газавай гаспадаркай займаюцца спецыялiсты.

**МВУ "Маладзечнамiжрайгаз"**
**УНП 100008077**


Фота dompressy.by.

Вядомы пецярбургскі кампазітар ураджэнец Вілейшчыны Леанід Левашкевіч.

МУЗЫКА

## Творы земляка ў выкананні аркестра

**ВІЛЕЙКА. У Палацы культуры 6 лютага адбыўся канцэрт з твораў Леаніда Левашкевіча.**

Гучалі яны ў выкананні сімфанічнага аркестра Маладзечанскага дзяржаўнага музычнага каледжа імя Агінскага пад кіраўніцтвам **Рыгора Сарокі** і **Андрэя Бараненкі** (фартэпіяна).

Леанід Левашкевіч – ураджэнец Куранца. Цяпер кампазітар, жыве ў Санкт-Пецярбургу. Ён – лаўрэат міжнародных конкурсаў, прадстаўнік сучаснага рускага неарамантызму.

Наш зямляк не ў першы раз знаёміць са сваімі творамі віляйчан. Адразу гэта былі канцэрты з салістамі-віртуозамі творчай садружнасці "Маэстра" з Санкт-Пецярбурга, кіраўніком якога ўраджэнец Вілейшчыны з'яўляецца.

Але ўпершыню віляйчане змаглі паслухаць творы земляка ў выкананні сімфанічнага аркестра. Адбылося гэта дзякуючы супрацоўніцтву з заслужаным дзеячам культуры Рэспублікі Беларусь Рыгорам Сарокам.

Пачаўся канцэрт прывітальным словам Леаніда Левашкевіча.

У першым аддзяленні гучала лірычная музыка, а ў другім – больш вясёлая і завадная. Віляйчане паслухалі танга, вальсы, рэгтаймы.

– Музыка настолькі добрая, асабліва ў выкананні сімфанічнага аркестра, што пасля яе іншую – у запісе – не хочацца і слухаць, – падзялілася ўражаннямі намеснік дырэктара Палаца культуры **Вольга Шляпо**. – Вельмі добра, што віляйчане змаглі пачуць сапраўдную жывую музыку. Бо, лічу, калі людзей знаёміць з узорамі высокага мастацтва, то яны і будуць цягнуцца да яго.

Канцэрт у Вілейцы быў адным з трох канцэртаў у Беларусі: іншыя праходзілі ў Маладзечне і Мінску.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

КОНКУРСЫ

# "Праз гэты конкурс знайшоў сваё: роднае і блізкае"

**ВІЛЕЙКА. Віляйчанін Дзяніс Астрэлін пераможа на абласным этапе рэспубліканскага конкурсу "Незвычайнае кіно". Па ўмовах конкурсу відэазамалёўку "Зазімак на Вяллі" аўтар здымаў на мабільны тэлефон.**


Фота з архіва Святланы МАЦУКЕВІЧ.

Дзяніс Астрэлін, навучэнец 2 курса вілейскага прафесійна-тэхнічнага каледжа.

Двуххвілінны ролік навучэнца 2 курса вілейскага прафесійна-тэхнічнага каледжа паказвае мясцовыя краявіды.

– Я вельмі люблю Вілейку, люблю выехаць за горад ды прайсціся па Віліі, – распавядае Дзяніс. – Здымаю мясціны ўжо каля года. Пачаць гэтым займацца мне параіў **Леанід Курц**: "Паспрабуй, а раптам спадабаецца?" І мне спадабалася. Ён потым і дапамагаў мне мантаваць відэа ў тэлестудыі каледжа. Рады, што ўсё так атрымалася, праз гэты конкурс я знайшоў сваё: роднае і блізкае.

Леанід Курц працуе ў вілейскім каледжы праграмістам. У тэлестудыі, яго творчай майстэрні, яны разам з Дзянісам стварылі канчатковы варыянт відэазамалёўкі. Яна ідзе 2 хвіліны і 40 секунд. Дарэчы, у кліпе выкарыстаны ўрывак верша нашай землячкі **Ірыны Будзько**:

*"Залёталі белыя мухі…*
*Як доўга чакаць нам вясну…*
*Зазімак…*
*Без жалю і скрухі*
*Вялля адыходзіць да сну…"*

– Наша рака Вілія чароўная ў любую пару года, – лічыць Леанід Курц. – Яна натхняе не толькі на стварэнне вершаў, але і мастацкіх відэазамалёвак. Таму я і прапанаваў Дзянісу зрабіць такое відэа.

Тэлемайстэрня, якой кіруе Леанід, запрацавала чатыры гады таму. Тады вырашылі, што ў ёй будуць рабіць відэа самага рознага кшталту: навіны, дакументальна-хранікальныя сюжэты, мастацкія замалёўкі.

– Ва ўсіх трох карпусах каледжа ёсць тэлевізар, на якім мы паказваем усё, што ў нас адбываецца, – кажа педагог-арганізатар **Святлана Мацукевіч**. – У актавай зале, дзе звычайна ладзім розныя сустрэчы і конкурсы, усяго 350 месцаў. Навучэнцаў жа ў нас – 800. Таму наша тэлебачанне – адзіная магчымасць паглядзець на мерапрыемства, калі не ўдалося на ім пабываць. Ды і навучэнцам цікава.

### Дзяніс вызначыўся не ў першы раз

Летась у лістападзе хлопец удзельнічаў у конкурсе на распрацоўку камп'ютарнай праграмы.

Разам са сваім сябрам **Андрэем Пашчанкам** ён стварыў прайгравальнік аўдыёфайлаў. Схема працы ў яго, як і ў звычайнага.

Тады Дзяніс таксама заняў прызавое месца.

Цяпер яго фільм удзельнічае ў апошнім, рэспубліканскім, этапе конкурсу. Застаецца толькі пажадаць яму поспеху.


Фота Ігара МАРОЗА.

Вілія расцягнулася на 510 кіламетраў. На ёй месцяцца два гарады нашага рэгіёна – Вілейка і Смаргонь.

**Настасся РОЎДА.**

**Відэа глядзіце на сайце**

**Rh.by**

СКУЛЬПТУРА

# Уладзімір Церабун: "Касалапы ўстаў на лапы"

**СМАРГОНЬ. Скончылася праца над скульптурнай кампазіцыяй "Мядзведжая акадэмія".**

Сёлета напрыканцы студзеня скульптуры перавезлі ў Смаргонь.

Кампазіцыю мяркуюць усталяваць у цэнтральным парку горада восенню. Пляцоўка ўжо падрыхтаваная.

Нагадаем, што першапачатковы эскіз скульптуры распрацаваў яшчэ дзесяць гадоў таму скульптар, ураджэнец нашага рэгіёна, ганаровы грамадзянін Смаргоні, заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь Уладзімір Церабун.

Канчатковы ж эскіз зацвердзіў яшчэ ў красавіку мастацкі савет у Гродне.

– Асноўная праца скончаная, – кажа спадар Уладзімір. – Аднак скульптуры яшчэ павінны выстаяць і іх трэба затаніраваць. Прызнацца шчыра, досведу ў апрацоўцы чыгуну ў мяне пакуль не было. Гэта эксперыментальная праца. Аднак усё атрымалася, і кампазіцыя будзе ўсталяваная.

Падрабязней пра гісторыю стварэння "Мядзведжай акадэміі", а таксама пра іншыя працы мастака і яго самога можна пачытаць у №2 за 10 студзеня 2014 года альбо на нашым сайце **rh.by**.

**Настасся РОЎДА.**


Фота з архіва Уладзіміра ЦЕРАБУНА.

Скульптурная кампазіцыя "Мядзведжая акадэмія" з чыгуну. Вышыня – 2,4 метра.



Батлейка ад вучняў Сцешыцкага сада-школы.

Фота з архіва Анатоля ПРЫЦА.

● КОНКУРСЫ

## На Вілейшчыне шукалі юных вынаходнікаў

**ВІЛЕЙКА. Ад 31 студзеня па 8 лютага праходзіў раённы конкурс тэхнічнай творчасці вучняў "Думаем. Ствараем. Вынаходзім". На яго прадставілі 27 прац з 13 установ адукацыі.**

Конкурс праходзіў у два этапы, расказаў метадыст Вілейскага раённага цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі **Анатоль Прыц.** На першым этапе праводзіўся адбор лепшых прац, на другім – іх абарона.

Для ўдзелу ў абароне праектаў запрасілі 18 вучняў. Па яе выніках журы вызначыла пераможцаў.

У секцыі "Тэхнічнае мадэляванне" першае месца занялі вучні Нарацкай сярэдняй школы **Васіль Шайко** і **Вячаслаў Смірноў.**

**Дзяніс Пасека, Анастасія Каляда, Таццяна Святоха** (Сцешыцкі сад-школа) перамаглі ў секцыі "Тэхнічнае канструяванне".

А ў секцыі "Радыёэлектроніка, тэлемеханіка, аўтаматыка, робататэхніка" першае месца заняў **Віталь Таргачоў** з Людвінаўскай сярэдняй школы

**Аддзел інфармацыі.**

● СЛУЖБА 101

## Мужчына загінуў падчас пажару

**МАЛАДЗЕЧНА. Здарэнне адбылося 11 лютага на вуліцы Янкі Купалы. У службу выратавання паступіў тэлефонны званок ад чалавека, што праходзіў міма і заўважыў, што гарыць прыватны дом.**

Калі выратавальнікі прыбылі на месца здарэння, убачылі, што гарыць адзін з жылых пакояў дома. Пасля на кухні супрацоўнікі МНС знайшлі труп 50-гадовага гаспадара дома. Як высветлілі пазней, мужчына нідзе не працаваў.

Трагедыя, якая адбылася ўвечары 11 лютага ў гэтым доме, вельмі моцна паўплывала на жонку загінуўшага гаспадара. Яе прыйшлося даставіць у спецыяльную лякарню.

Аб прычынах пажару гаварыць пакуль рана, вядзецца праверка, – паведаміў "Рэгіянальнай газеце" старшы інспектар інспекцыі нагляду і прафілактыкі Маладзечанскага райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Сяргей Палітыка.**

**Наталля ТУР.**

# Каханне, якое можна патрымаць у руках

**МАЛАДЗЕЧНА. У Дзень Святога Валянціна трэба гаварыць пра каханне.**

Мы гаворым аб ім, як аб самым светлым і цудоўным пачуцці, якое, на жаль, нельга ўбачыць, пачуць і памацаць. Але бывае, што дастаткова зірнуць на нейкую рэч, каб адразу перад вачыма паўстала і першае спатканне, і прызнанне ў каханні, і колер вачэй таго чалавека, які аднойчы сказаў вам самае галоўнае слова ў жыцці: "Кахаю."

У гэтым артыкуле мы сабралі ўсе тыя рэчы, якія вяртаюць нашых чытачоў да ўспамінаў аб першым, або адзіным, на ўсё жыццё, каханні.

### Жменька суніц

– Гэта было ў дзіцячым аздараўленчым лагеры. Я тады расказала хлопчыку, які мне падабаўся, што вельмі люблю суніцы. І вось ён аднойчы збег з лагера. Усе выхавальнікі "стаялі на вушах", шукалі яго. Памятаю, як на яго крычалі, пыталіся, дзе ён быў, калі, нарэшце, вярнуўся ў лагер. А хлопчык моўчкі з-за спіны дастаў кубачак і высыпаў мне ў далоні жменьку суніц. Ну як магла ў яго не закахацца? А ў канцы лета ён з бацькамі паехаў жыць у Канаду. І больш мы ніколі з ім не бачыліся, – дзеліцца ўспамінамі **Кацярына Старацітарава**. – З тых часоў люблю суніцы яшчэ больш. Таму што ў майго першага кахання сунічны пах і сунічны смак.

– Пахі маюць цудадзейную якасць вяртаць у мінулае, – гаворыць **Марына Шчыглінская**. – З тым хлопцам мы даўно ўжо не бачыліся. Аднойчы мы былі з ім на возеры. Хлопец прапанаваў паплаваць, і, не дачакаўшыся майго адказу, зацягнуў у ваду ў адзенні. А потым аддаў сваю сухую майку, ад якой пахла яго парфумай. Калі мне хочацца ўзнавіць успаміны таго лета, іду ў магазін і пшыкаю на паперку той самай туалетнай вадой, пах якой я не пераблытаю ні з якім іншым пахам на свеце. І майку, дарэчы, так яму і не вярнула, пакінула сабе на памяць.

### Сустрэнемся на лаўцы, пад вярбой

Лавачкі, лавачкі… Як жа гуляць увесь дзень з каханым і не прысесці адпачыць на лавачку ў цянюку парку? Так і адбылося з **Вольгай Дзуновіч**. Прыселі, размаўлялі, трымаліся за рукі, цалаваліся…і прысохлі. Дзе ж там заўважыш надпіс: "Асцярожна, пафарбавана", калі бачыш толькі вочы свайго каханага?

З лаўкамі ёсць гісторыі і менш кур'ёзныя. Многія маладзечанцы, напэўна, заўважылі, што сквер на Цэнтральнай плошчы значна парадзеў. "Ну і што з таго?" – здзівяцца іншыя. Затое дыхаць стала лягчэй". А для **Юліі Салаўёвай** тыя вербы, што ўпрыгожвалі сквер, і тыя лавачкі, ля якіх яны раслі, не проста дрэвы, а месца, дзе праходзілі першыя спатканні з чалавекам, які стаў Юліным лёсам. Толькі ўявіце сабе, у самым цэнтры горада быў такі астравок спакою і адасаблення ад усяго свету, дзе можна было балбатаць цэлыя вечары напралёт.

– Колькі ўспамінаў звязана з тымі лавачкамі, дзе можна было сядзець да світання, з тымі вербамі, якія надзейна хавалі і ад дажджу, і ад чужых вачэй! – гаворыць Юлія.

Увогуле, не ў адной Юліі каханне асацыюецца з раслінамі.

**Кветкі – такі ж атрыбут кахання, як і ружовыя сэрцайкі. Асабліва запамінаюцца першыя кветкі.**

**Наталля Загорская** ўспомніла свае першыя кветкі. На вуліцы Міру пад аптэкай раслі фіялетавыя і жоўтыя касачы. Калі яе хлопчык першы раз падвадзіў дадому, вырашыў зрабіць сюрпрыз. Нарваў цэлы букет гэтых касачоў. І ўсё б нічога, каб нарваў ён іх разам са цыблінамі. Ды дзе там! Нарваў адных бутонаў. Так і ішлі побач: дзяўчынка, якой упершыню падарылі кветкі, і хлопчык, які да самага пад'езда нёс рознакаляровыя бутоны, паклаўшы іх, быццам у фартушок, у сваю майку.

– А я кветкі не вельмі люблю, праўда-праўда. І сказала пра гэта свайму каханаму, – гаворыць **Вольга Багдановіч**, – ён узяў і прынёс мне бамбук. Ну, не кветка, не паспрачаешся. Называем яго сімвалам нашага кахання, ён і цяпер стаіць у нас на падваконні, кожны дзень расце, як і наша каханне.

### Фатаграфія 9 на 12

Знайдзіце вольны час і прагледзьце сямейны фотаальбом. Магчыма, у ім вы таксама знойдзеце лёсавызначальны здымак, як і адбылося з **Вольгай Хоміч**. Аднойчы разам з мужам яны разглядалі дзіцячыя здымкі Аляксея. На фотаздымку, які быў зроблены шмат гадоў таму на ўрачыстай лінейцы да першага верасня, Вольгу, якой тады быў адзін гадок, трымае на руках бацька, дырэктар той школы, дзе адбывалася лінейка. А на першым плане стаіць першакласнік з гваздзікамі… Вользін будучы муж Аляксей. Да знаёмства ім заставалася яшчэ 13 гадоў…

– А ў мяне зусім не фотаздымак асацыюецца з каханнем да Вольгі, – гаворыць муж Вольгі **Аляксей Хоміч**, – на нашым першым спатканні Вольга ўзяла ў мяне мой гадзіннік, надта ёй захацелася яго памераць. Як толькі яна яго зняла з рукі, ён спыніўся. І больш не працуе.

**Мы жанатыя ўжо 11 гадоў, а я да сёння памятаю час, з якога пачаўся адлік нашаму каханню – 19:37.**



Фота забяспечана Вольгай ХОМІЧ.

**Вольга і Аляксей Хомічы з дачкой Палінай. Іх першая сустрэча адбылася задоўга да знаёмства. Калі пачалі сустракацца, даведаліся, што ў іх ужо ёсць агульны здымак са школьнай лінейкі (ніжэй).**



Фота забяспечана Вольгай ХОМІЧ.

**За 13 год да знаёмства. Аляксей – на пярэднім плане (злева) з гваздзікамі. Вольга – у капялюшыку на руках у бацькі.**

### Кацiныя лапкі і заколка, якая ламалася ўвесь час

Увагу дэталям, канешне ж, аддаюць пераважна дзяўчынкі. Яны і ружачку першую засушаць і захаваюць, і білет у кіно на апошні рад зберагуць, як каштоўнасць. Цікава, а ці надаюць хлопцы такую ўвагу прадметам? І, як вы ўжо маглі здагадацца, мала хто змог прыгадаць які-небудзь прадмет, які можна лічыць сімвалам. Але некаторыя дэталі прадстаўнікам моцнага полу ўсё ж такі ўзгадаць атрымалася.

– Гэта было ў дзіцячым садку, у час абедзеннага сну, – распавядае **Максім Сакалоў**. – Мой ложак стаяў побач з ложкам самай прыгожай дзяўчынкі ў групе. Як вы ведаеце, спаць тады ўдзень было самым горшым пакараннем. І суседка мне, на шчасце, трапілася не санлівая. Яна гуляла са сваёй заколкай і раптам вінцік з яе выпаў, і яна развалілася на дзве часткі. Я прапанаваў ёй сваю дапамогу, сказаў, што магу парамантаваць. Толькі я парамантаваў, як яна зноў зламала яе. Так мы з ёй амаль гадзіну ламалі і рамантавалі гэту няшчасную заколку. Потым заўважыла гэта выхавальніца і прымусіла прысядаць побач з ложкам 10 разоў. А я толькі нядаўна зразумеў, што тая дзяўчынка спецыяльна ламала сваю заколку, каб я рамантаваў яе. Чаму я не зразумеў гэта тады?

**Не толькі прадметы застаюцца ў памяці на доўгія гады, але і музыка, і нават фільмы.**

– Я самы праўдзівы хлопец у свеце. Запрасіў дзяўчыну паглядзець фільм у мяне дома, і глядзелі. "Службовы раман", я так люблю гэты фільм, і мне так хацелася паглядзець яго разам! А яна заснула якраз у той момант, калі памёр Бублікаў. Бессардэчная асоба! Відаць, яна прыходзіла не на кіно, – уздыхае **Мікалай Палхоўскі**.

Гісторыя, якую ўзгадаў **Вадзім Замара**, не толькі запамінальная, але і траўманебяспечная:

– Кацiныя лапкі, вось з чым асацыюецца ў мяне каханне. Яна сваімі доўгімі, вострымі кіпцікамі ўвесь час драпала мне і рукі, і спіну, і нават твар. Не хацела яна адказваць на мае пачуцці ўзаемнасцю, а я так любіў яе… сваю котку. Так і з дзяўчынамі: ты да яе ўсім сэрцам, а яна кіпцікамі-кіпцікамі.



**Наталля ТУР.**
E-mail: turenok_08@mail.ru

ГІПОТЭЗЫ

# Прозвішча Самаль і легенды вакол яго

**Неяк да мяне звярнулася адна паважаная жанчына з просьбай скласці генеалагічнае дрэва яе цёткі з нэрадкім у нашым рэгіёне прозвішчам Самаль. Цётка нарадзілася ў вёсцы Самалі на Маладзечаншчыне.**



Фота nil.ru

Французкія салдаты маршала Нея, загнаныя ў лес пад Красным. Малюнак Адольфа Івона.

У іх сям'і існуе легенда, што пры адступленні арміі Напалеона ў адной з навакольных вёсак у сям'і мясцовага жыхара застаўся паранены французскі вайсковец, які пазней заснаваў вёску Самалі і даў пачатак роду Самалёў.

Легенда захапіла мяне, і я стаў капаць ва ўрадлівых інфармацыйных пластах інтэрнэту. І вось што я накапаў.

Аляксандр Плавінскі ў "Беларускай ваеннай газеце" піша, што ў нашай мясцовасці з пакалення ў пакаленне перадаецца легенда аб тым, што ў безыменным засценку паміж Селішчам і Маладзечнам адзінокая жанчына хавала ад рускіх войскаў і выхадзіла асуджанага на смерць шведскага салдата Самалі.

Прайшоў час, і гэты засценак па прозвішчы выратаванага воіна і прадстаўнікоў яго роду, якія жывуць там, так і назвалі – Самалі. Цяпер у вёсцы Латыгаль на Вілейшчыне жыве далёкі нашчадак таго іншаземнага салдата – **Канстанцін Несцеравіч Самаль**. У яго сям'і добра ведаюць гэту гісторыю і як рэліквію зберагаюць яе, клапоцяцца пра яе неўміручасць, перадаючы нашчадкам.

Цікава, што такая ж легенда ёсць у маёй сям'і, толькі родам яна з Магілёўшчыны.

Пасля аднаго са шматлікіх баёў сям'я маіх продкаў прытуліла раненага афіцэра ад артылерыі. Прозвішча гэтага шведа было Kittingolf ці Kittelgolf. Пасля таго як швед вылечыўся, ён ажаніўся з дачкой гаспадара. Паколькі для беларусаў гэта прозвішча было цяжкім ва ўспрыманні, то яно трансфармавалася ў прозвішча Кіцікаў.

І ўсё ж: Самалі – гэта шведы ці французы? І тут на дапамогу прыходзіць інтэрнэт.

Знаходзім Самаля Ёнсэна, паўабаронцу зборнай Фарэры па футболе. Фарэрскія астравы – група астравоў у паўночнай частцы Атлантычнага акіяна паміж Шатландыяй (Шатландскімі астравамі) і Ісландыяй. Уваходзяць у склад Каралеўства Данія. У той час Данія была акупаваная шведскімі войскамі. І тут жа знаходзім Семале (французскае Semall ) – муніцыпалітэт у Францыі, у рэгіёне Ніжняя Нармандыя, дэпартамент Орн. Насельніцтва 404 чалавекі, геаграфічныя каардынаты (48°28'0.120"N), даўгата 0°9'0.000"E). У 115 кіламетрах на поўдзень ад Парыжа. Ёсць у Францыі і такое прозвішча Richard Semally...

Нібыта ні адна з версій не з'яўляецца пакуль пераважнай. Але...

У 2007 годзе вайскоўцы 52-га спецыялізаванага пошукавага батальёна Узброеных Сіл знайшлі астанкі каля 200 салдат і французскую вайсковую атрыбутыку часоў Напалеона каля вёскі Селішча, што за некалькі кіламетраў ад Самалёў. А каля Вязыні ёсць урочышча "Напалеонавая грэбля". А ядры напалеонаўскіх часоў ёсць не толькі ў школьных музеях і прыватных калекцыях. Адзін мясцовы жартаўнік неяк сказаў, што такімі ядрамі ён з сябрамі гуляў у дзяцінстве ў кеглі...

Таму я схіляюся больш да французскага следу, хаця французы маглі ваяваць за шведаў, а шведы – за французаў. Бо наёмнікі ў тыя часы ў Еўропе былі хадавым таварам.

У сацыяльных сетках зарэгістравана некалькі тысяч носьбітаў прозвішча Самаль, палова з якіх выхадцы з Маладзечна, Вілейкі Ракава – нашага рэгіёна. Значыць, напэўна, цэнтр распаўсюджвання прозвішча Самаль – вёска Самалі Маладзечанскага раёна. Хаця трэба нагадаць, што яшчэ зусім нядаўна была вёска Самалі ў Вілейскім раёне.

Можа, пасля гэтай публікацыі хто-небудзь зможа паведаміць інфармацыю аб гісторыі прозвішча Самаль.



**Ігар КІЦІКАЎ.**
E-mail: vgptk@minsk-region.edu.by

У СВЕЦЕ ПАЖОЎКЛЫХ СТАРОНАК



# Віляйчане ў 1922 годзе былі ў захапленні ад беларускага тэатра



Люблю пагартаць падшыўкі старых газет. Чым жылі людзі дваццаць, сорак, 100 гадоў таму? З асаблівым пачуццём учытваюся ў радкі, дзе сустракаюцца знаёмыя прозвішчы, назвы паселішчаў... А вы падзяляеце маё замілаванне? Калі так, то запрашаю ў сумесную вандроўку ў свет пажоўклых старонак.

**Аляксандр МАНЦЭВІЧ.**

З Вілейкі павятовай. 29 ліпеня завітаў да нашага мястэчка беларускі тэатр пад кіраўніцтвам Францішка Аляхновіча.

Прыбыццё беларускага тэатра, які складаецца з прафесійных акцёрскіх сіл, незвычайна захапіла мясцовую публіку, якая да гэтага часу бачыла толькі аматарскія калектывы. Таму няма нічога дзіўнага, што, нават нягледзячы на тое, што ў той самы дзень ў памяшканні польскай гімназіі праходзіла польская пастаноўка, зала ў доме Кугеля, дзе ставілі беларусы, была перапоўненая. Прыйшла не толькі беларуская публіка, але таксама польская і яўрэйская, каб упершыню пабачыць беларускі тэатр.

Сыгралі "На папасе" Янкі Купалы, "Лес шуміць" – інсцэніраваная легенда Караленкі і "Птушка шчасця" Аляхновіча. Першыя два драматычныя абразкі, хаця не было дэкарацый і светлавых эфектаў, зрабілі глыбокае ўражанне гульнёй, поўнай настрою. "Птушка шчасця" ж з разнастайнымі спевамі на народныя мелодыі раз за разам выклікала выбухі смеху камічнымі сітуацыямі Янкі і Маланкі.

Наша публіка з цеплынёй сустрэне наступны прыезд вандроўнай тэатральнай беларускай трупы, калі яна яшчэ раз завітае да нашага мястэчка, пазбаўленага добрых забаў.

**В.**
**"Słowo", 2 жніўня 1922 года, №2.**
**Пераклад з польскай.**

Наступны раз я раскажу, як маладзечанскія футбалісты ў 1922 годзе клас у Вільні паказвалі...

КАЛЯНДАР

**14 лютага.** 1956 год. Пачаўся XX з'езд КПСС, дзе прагучаў даклад Мікіты Хрушчова з асуджэннем культу асобы Сталіна.

***

**90 гадоў** таму (1924) выйшаў першы нумар газеты "Голас Беларуса". Рэдактар-выдавец Мікола Шыла.

***

**100 гадоў** з дня нараджэння Паўла Масленікава (1914 – 1995), беларускага тэатральнага мастака, пейзажыста, мастацтвазнаўца, педагога, народнага мастака Беларусі. Скончыў Віцебскае мастацкае вучылішча і Інстытут жывапісу, скульптуры, архітэктуры імя Рэпіна ў Ленінградзе. Працаваў у Дзяржаўным тэатры оперы і балета Беларусі. Афармляў спектаклі. З 1960 па 1964 год займаў пасаду рэктара Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута. З 1967 па 1979 гады – загадчык кафедры мастацкага афармлення тканін і вырабаў з іх.

***

**15 лютага.** 110 гадоў з дня нараджэння Ларысы Александроўскай (1904 – 1980), беларускай спявачкі, рэжысёра, грамадскага дзеяча, народнай артысткі СССР. З 1987 года ў Беларусі праводзяцца нацыянальныя конкурсы вакалістаў імя Александроўскай, а ў 1992-м яе імя атрымала прэмія ў галіне тэатральнага мастацтва. Падчас Вялікай Айчыннай вайны выступала з канцэртамі на франтах, у шпіталях і ў партызанскіх атрадах. З 1951 года была адначасова і галоўным рэжысёрам Беларускага тэатра оперы і балета.

***

**16 лютага.** 95 гадоў назад (1919) Выканаўчы камітэт Мінскага Савета рабочых і сялянскіх дэпутатаў прыняў рашэнне аб стварэнні Дзяржаўнага ўніверсітэта ў Мінску.

***

**90 гадоў** з дня нараджэння Андрэя Заспіцкага (1924), скульптара, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

***

**17 лютага.** 1806 год. Нарадзіўся Канстанцін Тышкевіч, беларускі гісторык, археолаг, краязнавец, адзін з заснавальнікаў беларускай археалогіі. Шмат вандраваў, даследаваў каля 200 курганоў, гарадзішчаў і замчышчаў у Мінскай губерні, стварыў першыя тапаграфічныя планы гарадзішчаў. Лічыў курганы старадаўнімі пахаваннямі, а гарадзішчы месцамі, дзе выконваліся розныя абрады. У 1856 арганізаваў экспедыцыю па рацэ Віліі, у выніку якой сабраў багаты этнаграфічны матэрыял і напісаў краязнаўчую манаграфію "Вілія і яе берагі".

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Школы не паведамляюць міліцыі пра наркаманаў

## Калі б педагогі не хавалі ўжыванне наркотыкаў вучнямі, барацьба з наркаманіяй была б эфектыўней, лічыць галоўны міліцыянер вобласці.

**Што робіць міліцыя, каб не дапусціць страляніны ў грамадскіх месцах, ці востра стаіць праблема наркотыкаў у краіне і ці бываюць няважныя справы ў вартавых парадку?**

На гэтыя і іншыя пытанні распавёў начальнік упраўлення ўнутраных спраў Мінскага аблвыканкама **Віктар Сянько** падчас прэс-канферэнцыі, якая адбылася 7 лютага ў Мінску.



Фота ctv.by.

Начальнік упраўлення ўнутраных спраў Мінскай вобласці Віктар Сянько.

### Страляніны ў грамадскіх месцах мы не дапусцім

Здарэнне, якое адбылося нядаўна ў маскоўскай школе, калі вучань адной са школ застрэліў настаўніка і паліцэйскага, прымусіла задумацца над тым, ці можа такое здарыцца і ў нас.

Першае пытанне, якое задала "Рэгіянальная газета" Віктару Сянько, датычылася менавіта гэтага.

**– Ці абароненыя грамадзяне Беларусі ад падобных здарэнняў?**

– Тое, што здарылася ў Маскве, безумоўна, трагедыя, якую прадказаць і прадугледзець было немагчыма, – сказаў Віктар Сянько. – Мы ўвесь час праводзім прафілактычную работу з грамадзянамі, у тым ліку пры дапамозе СМІ. Міліцыя Мінскай вобласці пільна сочыць за парадкам падчас правядзення масавых свят: супрацоўнікі міліцыі даглядаюць асабістыя рэчы, старанна патрулююць месцы збору грамадзян, рыхтуюць улёткі з патрэбнай інфармацыяй.

Што датычыцца грамадскіх месцаў, то яны паступова абсталёўваюцца камерамі відэаназірання, у першую чаргу гэта датычыцца школ. Не апошняе месца ў прафілактыцы такіх здарэнняў адыгрывае і аперацыя "Арсенал", якую мы праводзім рэгулярна.

Віктар Сянько адзначыў, што за 2013 год на тэрыторыі Мінскай вобласці адбылося звыш шасці тысяч масавых мерапрыемстваў, на якіх супрацоўнікі міліцыі зрабілі ўсё магчымае, каб пазбегнуць непрыемных здарэнняў. У першую чаргу гаворка ідзе пра абмежаванне продажу алкаголю.

**Амаль 80% здарэнняў (забойстваў, хуліганства, разбою) здзейснены ў стане алкагольнага ап'янення.**

– Ужыванне алкаголю не павінна быць нормай жыцця, – дадаў Віктар Сянько. Важны крок мы зрабілі, калі забаранілі прадаваць алкаголь з 9 вечара да 9 раніцы.

Яшчэ ў пачатку свайго выступлення Віктар Сянько адзначыў, што разам з праблемай алкаголю ў Беларусі актуальнай і важнай застаецца праблема наркотыкаў.

### Маладых наркаманаў большае

– Наркотыкі – гэта пагроза для беларускага грамадства. Асабліва жахліва тое, што колькасць непаўналетніх наркаманаў з кожным годам расце. Таму асноўная наша работа – гэта прафілактыка: размовы з моладдзю, дэманстрацыя вучэбных фільмаў, цеснае супрацоўніцтва з установамі адукацыі.

Яшчэ зусім нядаўна гэта было вострай праблемай. Настаўнікі ў школах хаваюць выпадкі ўжывання і набыцця наркотыкаў вучнямі, бо самі баяцца атрымаць па шапцы.

Спадзяёмся, што нам усё ж такі давялося дасягнуць узаемапаразумення і разам з аддзеламі адукацыі мы зможам прадухіліць пранікненне наркотыкаў у моладзевы асяродак.

**За 2013 год органы ўнутраных спраў Мінскай вобласці перакрылі сем каналаў пастаўкі наркатычных сродкаў.**

Але праблема застаецца актуальнай, бо там, дзе ёсць попыт, ёсць і прапановы. Ускладняе сітуацыю тое, што наркотыкі актыўна рэкламуюцца ў інтэрнэце. Мы вядзём з гэтым барацьбу, працуем над закрыццём такіх сайтаў, але ў хуткім часе яны зноў аднаўляюцца пад іншай назвай.



Фота teremok-serpreg.my1.ru.

Нават дзеці ведаюць, што адчыняць дзверы незнаёмцам небяспечна. Чаму дарослыя забываюць пра гэта?

### Кожнае пятае дарожнае здарэнне – на тэрыторыі Мінскай вобласці

Акрамя наркотыкаў, актуальнай праблемай у Мінскай вобласці застаецца дарожная бяспека. Кожнае пятае дарожна-транспартнае здарэнне ў Беларусі адбылося на тэрыторыі Мінскай вобласці. І кожны чацверты загінулы таксама з Мінскай вобласці. Прычыны аварый застаюцца нязменнымі. Гэта, па-першае, парушэнне хуткаснага рэжыму, а таксама парушэнні пешаходамі правілаў паводзін на дарогах і кіраванне аўтамабілем у нецвярозым стане.

– За 2013 год на 39 здарэнняў, якія адбываліся па віне кіроўцаў у нецвярозым стане, стала меней, – падкрэсліў Віктар Сянько.

Адным з напрамкаў у папярэджанні аварыйнасці на дарогах з'яўляецца і новаўвядзенне па канфіскацыі транспартных сродкаў у кіроўцаў, якія паўторна кіравалі аўтамабілем у нецвярозым стане. Ужо канфіскавана 30 аўтамабіляў, два з якіх належаць юрыдычным асобам. На самых небяспечных участках дарог цяпер працуюць 48 стацыянарных відэафіксатараў. З пачатку іх работы "лісты шчасця" атрымалі каля 700 тысяч кіроўцаў вобласці.

**У бліжэйшы час ДАІ ўсталюе яшчэ каля 50 відэафіксатараў, якія будуць фіксаваць не толькі парушэнне хуткаснага рэжыму, але і перасячэнне суцэльнай лініі, і наяўнасць рамянёў бяспекі.**

Пры такой сур'ёзнай і значнай працы, якую штодзень робіць міліцыя, мы не маглі не пацікавіцца ў начальніка ўпраўлення ўнутраных спраў, ці бываюць для іх няважныя справы. Прынамсі:

**– Наколькі сур'ёзна супрацоўнікі міліцыі ставяцца да скаргаў на абразу?**

– Да любой працы мы падыходзім адказна. Існуе закон аб звароце грамадзян, значыць, мусім яго выконваць. За 2013 год афармлена больш за 900 пратаколаў, 242 з іх датычацца скаргаў на абразу адміністрацыйных асоб.

### Не колькасцю міліцыянераў трэба вырашаць праблемы, а іх эфектыўнай працай

Журналістаў цікавіла не толькі тое, што можна прачытаць у міліцэйскай зводцы.

На пытанне, ці часта асобы сталага ўзросту становяцца ахвярамі злачынстваў, Віктар Сянько адказаў:

– На жаль, менталітэт у нашых бабуль і дзядуляў такі, што яны вераць людзям і не могуць адмовіць выпадковаму госцю, калі той просіць патэлефанаваць або папіць вады. І становяцца ахвярамі злачынстваў. Дамінуюць сярод такіх злачынстваў крадзяжы. Міліцыя надае асаблівую ўвагу людзям сталага ўзросту, якія жывуць адны. Мы рэгулярна праводзім акцыю "Бяспечнае суседства". Вельмі хочацца папрасіць усіх грамадзян не заставацца абыякавымі да таго, як жыве ваш адзінокі сталы сусед.

Калі ў Віктара Сянько запыталі, ці існуе ў міліцыі праблема з недахопам кадраў, начальнік упраўлення ўнутраных спраў хлусіць не стаў:

– Такая праблема існуе ў сельскай мясцовасці. Там жыве ўсяго 30% кадраў. Але мы праводзім работу, каб замацаваць супрацоўнікаў па месцы жыхарства. Вядзём яе з кадрамі перш за ўсё там, дзе адчуваецца востры недахоп у супрацоўніках міліцыі. Аднак адной колькасцю пытанні не вырашыш. Таму мы робім усё, каб супрацоўнікі міліцыі былі кваліфікаваныя, а служба якаснай.

**Наталля ТУР.**

ЭНЕРГЕТЫКА

# Трэці вятрак адкрывалі пры ўдзеле нямецкага пасла

**МЯДЗЕЛ. Урачыстае адкрыццё трэцяй у Мядзельскім раёне ветраэнергетычнай устаноўкі адбылося 7 лютага.**

Як і папярэднія дзве, узведзеныя ў 2000 і 2002 гадах, размешчаная яна ля вёскі Занарач.

Вятрак пабудавалі ў рамках інвестыцыйнага праекта Мінскай вобласці сіламі прадпрыемства "ЭкаДомБуд" пры падтрымцы нямецкай дабрачыннай арганізацыі "Дамы замест Чарнобыля".

**Устаноўка вырабляе 5% энергіі, якую спажывае Мядзельшчына.**

Сімвалічны ключ ад ветрака дырэктар "ЭкаДомБуда" **Юры Супруновіч** уручыў энергетыку гэтага прадпрыемства **Сяргею Жуку.**

Урачыстую стужачку на адкрыцці ветраэнергетычнай устаноўкі перарэзалі Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Германіі ў Рэспубліцы Беларусь Вальфрам Маас, старшыня Праўлення міжнароднай дабрачыннай арганізацыі "ЭкаДом" Бярнард Кэмпер, старшыня Мядзельскага райвыканкама **Ілля Шацько**. Прысутнічалі на адкрыцці дэлегацыя арганізацыі "Дамы замест Чарнобыля" (старшыня праўлення – Шыл Эдельтраўд), іншыя асобы.

– Устаноўка працуе ўжо з верасня і зарэкамендавала сябе вельмі добра, – паведаміў Юры Супруновіч. – Трэцяя ўстаноўка – найбольш магутная з усіх: яе намінальная магутнасць складае адзін мегават. А магутнасць пашыранай за кошт трэцяй устаноўкі ветраэлектрычнай станцыі складае 1,85 мегавата.

**Тры ветракі разам выпрацоўваюць каля двух з паловай мільёнаў кілават-гадзін у год.**

Электраэнергія паступае ў агульную сетку. Каб уявіць аб магутнасці ветракоў, прывядзём такія факты: гэтай энергіі дастаткова для таго, каб забяспечыць электрычнасцю больш за тысячу сем'яў, тут выпрацоўваецца пяць працэнтаў электраэнергіі, якая спажываецца ў Мядзельскім раёне.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Трэці вятрак ля Занарачы.

ШКОЛА

## Сталі даследчыкамі з дзіцячага садка

**ВІЛЕЙКА. Сярэдняя школа №3 у суботу, 8 лютага, гасцінна адчыніла дзверы для ўдзельнікаў фестывалю даследчых работ дашкольнікаў. У гэты ж дзень прайшоў конкурс малодшых школьнікаў "Я – даследчык".**

Сёлета на адборачны этап падалі 30 даследчых работ. Найбольш работ выканалі школьнікі сярэдняй школы №5.

У секцыі дашкольнай адукацыі паказалі пяць займальных прац. **Злата Цішкевіч** з яслі-садка раскрыла ў рабоце таямніцу цёмнага чалавечка. Пра тое, якія пераўтварэнні могуць быць са звычайным яйкам, распавяла **Паліна Сялюн** з любанскага садка. **Аня Любавіцкая** з санаторнага яслі-садка навучыла прысутных рабіць зубную пасту. Стэндавую прэзентацыю пра злы і добры агонь прадставіў **Саша Петрашэвіч** з яслі-садка №4. Даследаванне пра тое, як са звычайнай мукі ўтвараецца казачны Калабок, правяла **Аліна Худалей** з яслі-садка №5.

Сярод малодшых школьнікаў журы абрала пераможцаў.

У секцыі "Матэматыка. Фізіка. Тэхніка", "Гуманітарныя веды" лепшымі сталі **Ангеліна Габец** з гімназіі №2, **Маша Зубель** са школы №3, **Ваня Мамай** з любанскай школы і **Мілана Таргові** са школы №4.

У секцыі "Прыродазнаўства. Жывая прырода" перамаглі **Уладзік Кірпік** з ільянскай школы, **Саша Грышкевіч** з бубнаўскай школы і **Надзя Шарафановіч** з чурлёнскай школы.

У секцыі "Прыродазнаўства. Нежывая прырода" ў лідарах **Саша Альфер** і **Яна Пятніцкая** з гімназіі "Логас", **Федзя Верамей** з пачатковай школы №6 і **Аня Верамейчык** з гімназіі №2.

Усе ўдзельнікі фестывалю і конкурсу ўзнагароджаныя дыпломамі, яшчэ яны атрымалі прызы.

Для многіх хлопчыкаў і дзяўчынак удзел у фестывалі і конкурсе стаў першым крокам. Жадаем усім ім упэўнена ісці наперад па дарозе ведаў, дасягаць сваіх мэт і дабівацца новых перамог.

**Ірына ХАРЛАНАВА,**
**галоўны спецыяліст аддзела адукацыі, спорту і турызму.**
**Ірына ФІЛІСТОВІЧ,**
**метадыст вучэбна-метадычнага кабінета аддзела адукацыі, спорту і турызму.**

**Глядзіце фота на сайце**

Rh.by

МУЗЫКА

## Зала спявала разам з бардамі

**МАЛАДЗЕЧНА. Канцэрт клуба аўтарскай песні, прысвечаны 80-годдзю барда Юрыя Візбара, прайшоў у гімназіі № 10 у чацвер, 6 лютага.**

Таленавіты бард, чые песні спяваюць ужо паўстагоддзя, быў не толькі выдатным музыкантам, але і журналістам, альпіністам, кінаакцёрам, сцэнарыстам, драматургам. Нягледзячы на тое, што Юрыя Візбара ўжо больш за 20 гадоў няма з намі, яго песні і сёння часта гучаць на бардаўскіх вечарах.

Атмасфера сустрэчы была вельмі прыязнай і шчырай. Не было нацягнутасці і пампезнасці, як гэта нярэдка бывае на канцэртах. Вядома ж, удзельнікі хваляваліся. Кідалі погляды, нібы шукалі падтрымкі адзін аднаго, а на сцэне бліскуча выступалі.

Вечар пачаўся з выступлення **Дзімы Руткоўскага**, які выканаў душэўную песню пра таварыша-лётчыка "Сярога Санін". Яму апладзіравалі ўсе, настолькі гледачам спадабалася песня. Наступныя нумары слухачы ацэньвалі не менш бурна. Што ўжо казаць пра "Дамбайскі вальс", які стаў візітоўкай бардаўскай песні. У выкананні Лізаветы Варламавай ён прагучаў асабліва цікава. Далей выступалі ансамблі, і зноў госці былі зачараваныя. Бо ўсе творы Юрыя Візбара напоўненыя жыццёвай праўдай, велізарнай любоўю, светлымі эмоцыямі.

У канцы вечара слухачы спявалі разам з артыстамі, усміхаліся і паўтаралі знаёмыя фразы. Простыя, лёгкія, звычайныя, аптымістычныя словы быццам з'ядналі залу. Стваралася невыказнае пачуццё дружбы, надзейнасці, чакання лепшых перамен.

Гэту выдатную праграму падрыхтавалі два таленавітыя педагогі **Наталля Паўлючык і Алена Нелюб**. Дзякуючы гэтым людзям вучні гімназіі займаюць прызавыя месцы ў конкурсах, актыўна вывучаюць ігру на гітары і баяне, спяваюць песні і нястомна цягнуцца да музыкі. А як жа інакш? Бо nакіроўваюць і фарміруюць наш густ менавіта настаўнікі.

**Ганна АЛЕКСЯЕЎСКАЯ, школа журналістыкі "Маладзік".**

КОНКУРС

# У маладзечанскіх мадэлістаў – 23 дыпломы

**МАЛАДЗЕЧНА. Адкрыты конкурс стэндавых мадэляў, прысвечаны 70-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, прайшоў у цэнтры творчасці дзяцей і моладзі "Маладзік" 8 лютага.**

Дарослыя і юнакі з Мінска, Віцебска, Гомеля, Брэста, Вілейкі і Маладзечна прывезлі на конкурс каля сотні мадэляў.

Вынікі падводзіліся ў розных класах: авіямадэлі, бронетэхніка, артылерыя, флот, грузавыя і легкавыя аўтамабілі, дыярамы. І ў кожным на п'едэстале гонару аказаліся юніёры з Маладзечна. Гэта **Міхаіл Руды, Уладзіслаў Калясень, Арцём Юшкевіч, Кірыл Баштавенка, Сяргей Карлёнак, Ягор Сарока, Антон Троцкі. Стэфан Емяльяненка** і **Арцём Шахно** атрымалі адразу па чатыры дыпломы кожны. Па два заваявалі **Аляксей Барысаў** і **Яўген Гапановіч-Бабарыка.**

Для многіх дзяцей гэта ўжо не першыя спаборніцтвы. Так, Арцём Шахно шэсць гадоў займаецца мадэляваннем, у яго скарбонцы шмат перамог ў абласных і рэспубліканскіх спаборніцтвах.

– На гэты конкурс я падрыхтаваў больш за 10 копій. Напрыклад, у дыяраме паспрабаваў ўзнавіць карціну франтавога аэрадрома з самалётамі і зенітнай устаноўкай, – распавёў Арцём.

А вось дзесяцігадовы **Рома Юшкевіч** бярэ ўдзел у такіх спаборніцтвах упершыню. І хай яго імя пакуль няма ў спісе прызёраў – усё яшчэ наперадзе!

Добры прыклад сваім навучэнцам падавалі педагогі. Кіраўнік гуртка "Тэхнічнае мадэляванне" **Віталь Шахно** заняў першае месца сярод дарослых у намінацыі "Флот". За дзесяць гадоў працы ў "Маладзіку" ён выхаваў трох майстроў спорту, двух кандыдатаў у майстры спорту, трох бронзавых прызёраў чэмпіянату Еўропы. Зараз педагог рыхтуецца да ўдзелу ў чэмпіянаце свету па стэндавым мадэляванні.



Фота Таццяны РАМАНОВІЧ.

На конкурсе стэндавых мадэляў.

Акрамя ўдзельнікаў спаборніцтваў было шмат наведнікаў выставы. Прыйшоўшы сюды з сябрам за кампанію, **Улад Навойчык** цвёрда вырашыў запісацца ў гурток. Ён ужо даўно захапляецца гісторыяй рускіх танкаў і бронемашын. А зараз у яго будзе магчымасць ствараць іх паменшаныя копіі.

Хлопчыкі змаглі не толькі палюбавацца мадэлямі, але, напрыклад, скласці пазлы з гульнявым пакоі. Тэматычныя настольныя гульні прэзентавала таварыства "Зорны час". Яно ж стала спонсарам спаборніцтваў, уручыўшы пераможцам наборы для мадэлявання.

**Дар'я ЦАУНЯ, школа журналістыкі "Маладзік".**

● ФУТБОЛ

# Абралі новую эмблему ФК "Маладзечна"

**МАЛАДЗЕЧНА. Эмблема з'явіцца на сайце клуба ўжо на наступным тыдні, а на білетах, абанементах і форме гульцоў – у новым сезоне.**

У конкурсе на эмблему было прапанавана 13 варыянтаў лагатыпа клуба. Іх падзялілі на дзве групы і дапусцілі да галасавання, якое праходзіла ў два этапы.

На абодвух этапах перамог варыянт, які распрацавалі **Арцём Белячэўскі** і **Дзмітры Рухлевіч**.

Эмблема-пераможца ўяўляе сабой класічнае і вядомае заўзятарам спалучэнне сіняга трохкутніка, які выступае ў якасці фону гістарычнага герба горада, і зялёна-белага круга – клубныя колеры каманды.

Лагатып утрымлівае дату першага ўдзелу каманды з Маладзечна ў чэмпіянаце краіны. Гэтым мы падкрэслілі павагу да гісторыі маладзечанскага футбола і яго дасягненняў. З гэтай жа мэтай на эмблеме змешчаны і стары футбольны мяч.

Надпіс на эмблеме "Футбольны клуб Маладзечна" зміячае ў сабе саму ідэю клуба – выступленне ад імя горада, а таксама аб'ядноўвае ўсе папярэднія назвы каманды, ад "Дынама" да ФСК "Маладзечна-2013".

**Дзмітры РУХЛЕВІЧ.**




**Новая эмблема амаль не адрозніваецца ад папярэдняй. Заўзятатары паважаюць традыцыі. За гэты варыянт прагаласавала 85,3% аматараў футбола.**

● СПАРТАКІЯДА

# У гіравым спорце – выратавальнікі лепшыя

**МАЛАДЗЕЧНА. Чацвертага лютага ў межах спартакіяды "Мінскага абласнога ўпраўлення МНС" адбыўся чэмпіянат вобласці па гіравым спорце.**

Каманда выратавальнікаў з Маладзечна на гэтых спаборніцтвах заняла другое месца.

Распавядае намеснік начальніка па аператыўна-тактычнай рабоце Маладзечанскага раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях **Дзяніс Ушацкі:**

– Маладзечанскі аддзел МНС на гэтыя спаборніцтвы накіраваў 150 атлетаў. Спаборніцтвы праводзіліся ў сямі вагавых катэгорыях па праграме двухбор'я. Гэта штуршок і рывок. Лепшых выбіралі ў асабовым і камандным заліках. Па выніках каманднага заліку сярод падраздзяленняў МНС наша каманда заняла другое месца, саступіўшы камандзе з Узды. У асабовым першынстве ў вагавай катэгорыі за 90 кілаграмаў не было роўных нашаму калегу начальніку каравула пажарнай аварыйна-выратавальнай часці №1 **Сяргею Катушонку.**

**– Як дапамагаюць заняткі гіравым спортам у прафесіі выратавальніка?**

– Як і любы іншы спорт, гіравы спорт умацоўвае, загартоўвае, дысцыплінуе. А яшчэ ён развівае вынослівасць. Але не толькі гіравым спортам займаюцца выратавальнікі. Спаборніцтвы па гіравым спорце – гэта толькі адна дысцыпліна ў спартакіядзе. Акрамя яго, супрацоўнікі МНС спаборнічаюць у настольным тэнісе, плаванні, лёгкаатлетычным кросе, міні-футболе, валейболе, пажарна-выратавальным спорце, а з гэтага года яшчэ і ў шахматах. І толькі па выніках усіх спаборніцтваў будзе вызначаны пераможца спартакіяды 2014 года.

**– Бліжэйшыя спаборніцтвы калі адбудуцца?**

– 18 сакавіка пройдуць занальныя спаборніцтвы па настольным тэнісе. Супрацоўнікам МНС з Маладзечна будуць супрацьстаяць каманды Мядзела, Вілейкі, Лагойска, Валожына а таксама каманда пажарна-аварыйнага выратавальнага атрада, які таксама знаходзіцца ў Маладзечне. А ў красавіку ў Маладзечне каманды з Маладзечна, Мядзела і Вілейкі паспрачаюцца за званне лепшых у занальных спаборніцтвах па футболе.

**Наталля ТУР.**




**Гіравы спорт развівае вынослівасць.**

● НАВІНЫ

## Маладзечна сыграе ў чэмпіянаце Беларусі па хакеі?

**МАЛАДЗЕЧНА.** Старшыня Мінскага абласнога выканаўчага камітэта **Сямён Шапіра** даручыў у Маладзечне стварыць хакейную каманду, якая прадставіць горад у экстралізе, наймацнейшым дывізіёне адкрытага чэмпіянату Беларусі па хакеі з шайбай.

Як будзе гэта ажыццяўляцца, расказаў загадчык сектара спорту і турызму Маладзечанскага райвыканкама **Аляксандр Кавалёў:**

– Грошы на развіццё каманды будуць паступаць з абласнога бюджэту, горад фінансаваць каманду не будзе. Матчы чэмпіянату Беларусі пачынаюцца толькі ў верасні, таму ў нас яшчэ шмат часу, каб стварыць і падрыхтаваць каманду.

**– Гэта будуць мясцовыя гульцы?**

– Не, каманда будзе набірацца з розных гарадоў, трэнер таксама будзе запрошаны. У нас у горадзе няма дарослых людзей, якія займаюцца хакеем прафесійна.

**– Ці азначае гэта, што ўсе сілы пойдуць на падрыхтоўку хакейнай каманды, а свая футбольная, якая гуляе за горад зноў, застанецца за бортам?**

– Футбольныя каманды будуць існаваць і гуляць на тым жа ўзроўні, што і цяпер. Як вы ведаеце, адна каманда прадстаўляе горад у другой лізе рэспубліканскіх спаборніцтваў і дзве каманды з дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы прадстаўляюць горад на абласных спаборніцтвах. Цяпер праходзіць чэмпіянат па міні-футболе ў Лагойску, дзе таксама гуляе наша каманда пад кіраўніцтвам **Віталя Казяка.** Пакуль рана гаварыць аб тым, што будзе далей. Давайце дачакаемся пачатку сезона.

**Наталля ТУР.**

## Маладзечанцы – першыя

**МАЛАДЗЕЧНА.** 1 і 2 лютага адбыліся папярэднія гульні першынства Мінскай вобласці па міні-футболе сярод ДЮСШ і СДЮШАР (юнакі 2002 года нараджэння).

Прадстаўнікі Маладзечанскага раёна, каманда мясцовай ДЮСШ, занялі першае месца ў сваёй групе.

Паводле інфармацыі сайта абласной федэрацыі футбола, маладзечанцы абыгралі ўсіх сапернікаў – прадстаўнікоў спартыўных школ Мінскага, Лагойскага, Дзяржынскага раёнаў, а камандзе з Чэрвеня было залічанае тэхнічнае паражэнне.

Фінальныя гульні першынства Мінскай вобласці пройдуць 22-23 лютага ў Барысаве.

**Аддзел інфармацыі.**

## Чарговыя гульні: разгромаў няма

**МЯДЗЕЛ.** Чарговы тур чэмпіянату раёна па міні-футболе пачаўся 4 лютага. Каманды СДЮШАР і "Зубраня" на дваіх забілі 14 галоў: лік сустрэчы 8:6 на карысць "Зубраня". Каманда Мядзела перамагла прадстаўнікоў аддзела адукацыі, спорту і турызму з лікам 5:4. Камандзе Крывіцкага савета было залічанае тэхнічнае паражэнне з лікам 0:5 на карысць пастаўчан.

У гульнях 8 лютага каманда райваенкамата прайграла супрацоўнікам райаддзела на надзвычайных сітуацыях (4:6). Унічыю 4:4 разышліся гульцы прадпрыемства меліярацыйных сістэм і РАУС. Футбалісты Нарацкага савета адолелі "Юніёр" з лікам 5:3. Яшчэ адно тэхнічнае паражэнне 0:5 залічанае камандзе ЖКГ – у матчы з індывідуальнымі прадпрымальнікамі, паведаміў дырэктар Мядзельскага фізкультурна-аздараўленчага цэнтра **Міхаіл Чаркасаў.**

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Лепшыя ў рэспубліцы – у грэка-рымскай барацьбе

**МАЛАДЗЕЧНА.** Рэспубліканскія спаборніцтвы па грэка-рымскай барацьбе адбыліся 9-10 лютага ў Гродне. Маладзечанскую каманду прадставілі шэсць спартсменаў, пяць з якіх вярнуліся дадому з узнагародамі.

Спаборніцтвы праходзілі сярод спартсменаў 1994-1996 гадоў нараджэння. Усяго ў іх удзельнічалі 120 спартсменаў.

Пераможцай стала каманда Маладзечна, якая набрала 83 ачкі, на другім месцы каманда горада Гродна, бронзу заваявалі спартсмены з Віцебска.

У асабовым заліку лепшым у вагавай катэгорыі 55 кілаграмаў стаў маладзечанец **Віктар Клабук** (трэнеры **Сяргей Сафронаў** і **Міхаіл Упіньёк**). За першае месца яму прысуджанае званне майстра спорту па грэка-рымскай барацьбе.

Трэцяе месца ў вагавай катэгорыі 50 кілаграмаў заняў **Яўген Севасцьянаў** (трэнеры **Антон і Дзяніс Найлаўцы**), другое месца ў вагавай катэгорыі 60 кг – **Андрэй Дудараў** (трэнеры **Антон і Дзяніс Найлаўцы**), трэцяе месца ў вагавай катэгорыі 84 кг у **Антона Сахно** (трэнеры **Яўген Козел і Аляксандр Майсіёнак**), у вагавай катэгорыі 120 кг другое месца заняў **Аляксандр Саўрук** (трэнеры **Сяргей Сафронаў і Міхаіл Упіньёк**), – паведаміў "Рэгіянальнай газеце" старшы трэнер Маладзечанскага раёна па грэка-рымскай барацьбе **Антон Найлавец.**

**Наталля ТУР.**

# Камент-эксперт Rh.by

**Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420**

### У Вілейцы ўзводзяць капліцу ў гонар загінулых у Першай сусветнай

Расейскія акупанты вызвалілі Вілейку ад нямецкіх. Калі Беларусь стане беларускай? ***Паша.***

Прыгожы эскіз, і сама ідэя вельмі добрая. Падтрымліваю такіх неабыякавых людзей. ***Zerk.***

Вілейка стане прыгажэй. А каб яшчэ са стараны Крывой вуліцы зрабіць другую браму - капліцу ценям Касцюшкі-у гонар вызвалення 14 красавіка 1831г Вілейкі ад царскага войска і стварэння Павятовага Кіраўнічага Камітэта то і турыстаў можна прывабіць. ***Jzik.***

Ага! Спачатку здалі ў верасні 1915 года Вілейку немцам, потым адбілі праз тыдзень, а праз 2,5 года нанава здалі у лютым 1918. Так што надпіс няўдалы. Абыякавае стаўленне жыхароў Вілейкі да могілак сведчыць, што расейскія салдаты для нас чужыя, прышлыя. І капліцу трэба паставіць за помнікам ахвярам вілейскай турмы на салдацкіх могілках. А так выходзіць піяр Цітовічу і Капцюгу, таму што з галоўнай дарогі будзе добра бачны гэты твор. ***Nifeus.***

### Двор Стайкі можа запрацаваць у 2015 годзе

Хто сказаў, што няма ў нас людзей, мацнейшых за бюракратызм?!.. Вось яна не тое, што моцная, а нават мужная жанчына! На мой погляд, за такі праект Аксане пры жыцці помнік ставіць трэба! Малайчына! І поспехаў Вам, Аксана Волкава! ***Алесь Раткевіч.***

Бровар... А самагонам гандляваць будуць? Інакш не паеду:) ***Nifeus.***

### Хацелі б такі від з акна?

Куды глядзіць інспекцыя аховы навакольнага асяроддзя? На фота не смецце, а другасныя матэрыяльныя рэсурсы, а вось кантэйнераў для раздзельнага збору ПЭТ-бутэлек, шкла, паперы няма! ***Kent.***

### Ці ведаеце вы беларускія казкі?

А маёй першай казкай, якую я сама прачытала, былі "Жорны". Певень, які вяртаў скрадзеныя панам жорны да бабулі і дзядулі, быў маім героем проста! ***Казачніца.***

### Цэнтр якасці вады адкрыўся ў Мядзеле: з'явіўся ён услед за Вілейкай

Ваду на нітраты трэба праваяраць у спецыялістаў, у санстанцыі ці іншай акрэдытаванай лабараторыі. ***Fraj.***

Даваяраю толькі дзецям з Міхасём Петухам. Шэсць год назад ён выявіў павышанае ўтрыманне нітратаў у Сцешыцкай школе. Папярэдзіў інспекцыю экалагічную і санстанцыю. Пісала аб гэтым "РГ". У мінулым годзе зноў з дзецьмі праправерыў – утрыманне нітратаў яшчэ боль павялічалася. Паведамляў TUT/BY. Цяпер якасць вады можна праверыць самім як настаўнікам, так і вучням у цэнтрах якасці і ў Вілейцы, і ў Мядзеле. ***VOUK.***

### "Настаўніка года" выбралі ў Маладзечне

Шчыра віншуем нашу настаўніцу Курыловіч Таццяну Яўгенаўну з перамогай у конкурсе "Настаўнік года"! Мы Вамі ганарымся! Бацькі і вучні 1 "А" класа гімназіі №6 г.Маладзечна. ***Алеся.***

### Пошта далучылася да барацьбы з самагонам

За Польшчай даносчыку паліцыі давалі 60 злотых – амаль карову, і то не звялі тутэйшых майстроў саматужкіжытнёвачкі. А таго, хто адгон ці палёную робіць, – на мыла! ***Bulk.***

### Беларусь і Еўракамісія пачалі афіцыйныя перамовы аб спрашчэнні візавых працэдур

Не прайшло і пяці гадоў)) хаця лепей позна, чым ніколі, вядома. Вельмі сумна ў гэтым тое, што неабходныя дакументы для спрашчэння візавага рэжыму падпішуць да 2015 года – пад самыя прэзідэнцкія выбары, каб пасля можна было гэты факт выкарыстоўваць як нейкі "праеўрапейскі" аргумент. І тады мала хто ўспомніць, што пакуль выбарамі не пахла, беларускі бок больш трох гадоў не адказваў на прапанову ЕС пачаць гэтыя перамовы. ***Кукарэку.***

● **ГАРАСКОП (14-20 ЛЮТАГА)**

**Авен.** Вы чамусьці цяпер незадаволеныя дасягнутым, ва ўсім сумняваецеся. Спыніцеся, агледзьцеся, адумайцеся. У вас шмат сіл, добрае здароўе. Сканцэнтруйцеся на чым адным, і вынік не прымусіць сябе чакаць.

**Цялец.** Не распачынайце нічога новага, калі не паспелі завяршыць назапашаныя неадкладныя справы. Больш уважліва прыглядзецеся да навакольных людзей, іх ідэі могуць аказацца своечасовымі і арыгінальнымі.

**Блізняты.** Прыслухайцеся да блізкіх людзей, і вы зразумееце, дзе вы памыляліся і што іменна рабілі не так.

**Рак.** Каб аднавіць растрачаныя сілы, варта паназіраць за рыбкамі ў акварыуме. Не дапускайце старонніх людзей і іх парады ў рашэнне ўнутрысямейных праблем.

**Леў.** Зірніце на сваё жыццё без ілюзій. Магчыма, для вас наступіў момант канструктыўных перамен.

**Дзева.** Вы можаце ўвасобіць у жыццё самыя смелыя планы і жаданні. Галоўны ваш вораг – сумненні. Пераадолеўшы іх, усё збудзецца.

**Шалі.** Сканцэнтруйце свае сілы і ўвагу на самай важнай справе. Толькі ў гэтым выпадку вы зможаце давесці яе да канца, і вынікі будуць выдатнымі.

**Скарпіён.** Вы будзеце актыўныя і энергічныя. Але накіроўвайце энергію ў правільнае рэчышча, тады яе хопіць на доўгі час.

**Стралец.** Вы можаце адпачыць, пафантазіраваць, памарыць. Магчыма, у вашым асяроддзі знойдуцца людзі, якія захочуць перакласці свае праблемы на вас. Не будзьце мяккасардэчнымі, навучыцеся казаць "не".

**Казярог.** У вас ёсць магчымасць рэалізаваць свае планы. Але не спяшайцеся, лёс зробіць усё сам, проста плывіце па цячэнні.

**Вадалей.** Вы нечакана заўважыце, што кола кантактаў звузілася. Адбудуцца нечаканыя падзеі, на асэнсаванне якіх спатрэбіцца некаторы час. Падарожжы будуць спрыяльнымі як для справы, так і для задавальнення.

**Рыбы.** Вас чакае поспех на працы, усё будзе складацца як найлепш. Не забывайцеся пра ўласнае жыццё. Калі маеце справу з вялікімі грашыма, сем раз падумайце, куды іх патрацiць.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

● **ДАБРАЧЫННАСЦЬ**

## Дапаможам дзецям з анкалогіяй

**МАЛАДЗЕЧНА.** 14 лютага ў Палацы культуры адбудзецца дабрачынны канцэрт, накіраваны на збор сродкаў для дзяцей, хворых на анкалогію. Удзел у канцэрце прымуць зоркі беларускай эстрады.

Пачатак у 19:00. Тэлефон для даведак **8(0176) 75-27-84.**

**Аддзел інфармацыі.**



● **СУДОКУ**

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 3 | | | 6 | | | |
| 9 | | | 4 | 3 | | 5 | | |
| | | | | 1 | 5 | | | |
| 3 | 2 | 5 | | | | | 8 | 1 |
| | | 4 | | | | 7 | | |
| 8 | 9 | | | | | 2 | 5 | 4 |
| | | | 8 | 7 | | | | |
| | | 6 | | 4 | 3 | | | 7 |
| | | | 6 | | | 8 | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



● **РЭПЕРТУАР**

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Фэнтэзі, баявік "**РабаКоп**" (ЗША, 2014, фільм дазволены для гледачоў пасля 16)
14, 15 лютага – у 21:00
16 лютага – у 18:30
17-20 лютага – у 21:00
Кошт білета – 40 000-45 000 рублёў.

Камедыя "**Нерэальнае каханне**" (Расія, 2014, дзецям да 14 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
14, 15 лютага – у 17:00
16 лютага – у 21:00
17 лютага – у 19:00
19 лютага – у 19:00
Кошт білета – 33 000 рублёў.

Фэнтэзі, баявік "**Я, Франкенштэйн**", 3D (ЗША, Аўстралія, 2013, дзецям да 12 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
14, 15 лютага – у 19:00
16 лютага – у 16:30
18 лютага – у 19:00
20 лютага – у 19:00
Кошт білета – 50 000 рублёў.

Спартыўная драма "**Чэмпіёны**" (Расія, 2013, дзецям да 14 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
19 лютага – у 17:00
Кошт білета – 30 000 рублёў.

Экшн, прыгоды "**Геракл: Пачатак легенды**", 3D (ЗША, 2013, дзецям да 12 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
20 лютага – у 17:00
Кошт білета – 50 000 рублёў.

Анімацыйныя прыгоды "**Тарзан**", 3D (Германія, 2013, без узроставых абмежаванняў)
16 лютага – у 14:30
Кошт білета – 25 000 рублёў.

Анімацыйныя прыгоды "**Іван Царэвіч і Шэры Воўк-2**", 3D (Расія, 2013, без узроставых абмежаванняў)
15 лютага – у 15:00
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Анімацыйныя прыгоды "**Белка і Стрэлка: Прыгоды на Месяцы**", 3D (Расія, 2013, без узроставых абмежаванняў)
15 лютага – у 13:00
16 лютага – у 12:30
Кошт білета – 20 000 рублёў.

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя "**Тор. Легенда вікінгаў**" (Германія, 2011, без узроставых абмежаванняў)
15, 16 лютага – у 15:30
Кошт білета – 15 000 рублёў.

Драма "**Спадчыннікі**" (Расія, фільм дазволены гледачам, якім за 16 год)
14 лютага – у 21:30
15, 16 лютага – у 17:30
17 лютага – у 21:30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Ваенная драма "**Цэль бачу**" (Расія, 2013, дзецям да 14 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
14 лютага – у 19:30
15, 16 лютага – у 19:30, 21:30
18, 19 лютага – у 21:30
20 лютага – у 19:30
Кошт білета – 25 000 рублёў.

Меладрама "**Аматарка**" (Расія, 2012, дзецям да 14 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
18, 19 лютага – у 19:30
20 лютага – у 21:30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Тэл. **: 8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

## Мінскі абласны драматычны тэатр

### Рэпертуар на люты

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

"**Банкет**" (сентыментальная камедыя), *Ніл Сайман*
14 лютага – у 19:00

### Спектакль народнага тэатра "Метамарфозы"

"**Тая, што стварыла цуд**", пастаноўка Андрыяна Барткевіча, *Уільям Гібсан*
16 лютага – у 17:00

"**На другі дзень Сёмухі**" (сцэнічны жарт у 3-х дзеях на драматургічнай аснове "Прымакоў" Янкі Купалы), *Юры Вута*
18 лютага – у 19:00

"**Шукаю сапраўднага мужчыну**" (камедыя ў 2-х дзеях), *Алена Папова*
20 лютага – у 19:00

"**Вечар**" (лірычная меладрама), *Аляксей Дудараў*
21 лютага – у 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў.
Маладзечна, вуліца Чкалава, 7, тэл: **76-17-32, 75-24-17**. E-mail: modt@tyt.by, http://theatre-modt.by/

## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

"**Казка пра цара Салтана**", *А. Пушкін*
16 лютага – у 12.00.

Чакаем вас: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.*
Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

ISSN 1991-7155

Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень

**Камент-эксперт Rh.by**

Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420**, на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**

## НАДВОР'Е

**15 лютага, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +3 / +3 | | +3 / +3 | | 0 / +1 | | +3 / +3 | |
| | 733 | → 2 | 738 | ↗ 3 | 734 | ↗ 3 | 736 | → 6 |
| Вільня | 0 / +2 | | +1 / +2 | | +1 / +1 | | +2 / +2 | |
| | 740 | ↑ 1 | 745 | ↗ 3 | 740 | ↑ 3 | 743 | → 7 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць ападкі; Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с; Усход, захад па Маладзечне

Усход 8.32
Захад 18.21
Даўжыня дня 9.49

Усход 18.11
Захад 07.49
Квадра 3




## ПРЫКМЕТЫ

- Трыфан (14 лютага). Пярэдадзень Грамніц – грамнічны бацька. Рыхтавалі свечкі для асвячэння ў царкве. "Зорнае неба на Трыфана – позняя вясна".
- На Стрэчанне (15 лютага) сняжок – вясной дажджок.

# Чытайце праз тыдзень:

- **14 лютага а 14 гадзіне ў Маладзечанскім прафесійна-тэхнічным каледжы адбудзецца ўрачыстая экскурсія па музеі гісторыі прафесійна-тэхнічнай адукацыі. Пра экспанаты чытайце праз тыдзень.**



## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МЯДЗЕЛЕ

# У чым адметнасць беларускіх сем'яў?



**Ірына Цыгельнікава, загадчыца аддзела абслугоўвання і інфармацыі цэнтральнай раённай бібліятэкі:**

– Беларусы верныя сямейным традыцыям, шануюць бацькоў, часта збіраюцца ўсёй сям'ёй: па святах і без іх. Важныя сямейныя сувязі, якія павінны не разрывацца, а захоўвацца.



**Ганна Качарго, музейны работнік:**

– Цяжка адказаць на гэта пытанне. Гэта каб пажыў у іншых краінах, то мог бы параўнаць і зрабіць выснову.



**Святлана Кайко, загадчыца раённай дзіцячай бібліятэкі-экалагічнага цэнтра:**

– Лічу, што адметнасць беларускіх сем'яў у ўпрыгожванні жанчын і іх гаспадарлівасці: яны ўмеюць усё.



**Аляксандр Куцкевіч, прадавец:**

– Ад еўрапейскіх беларускія сем'і асабліва не адрозніваюцца. А вось ад азіяцкіх – тут, зразумела, адрозненні ёсць.



**Ганна Падгол, намесніца начальніка аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі:**

– Мы з павагай ставімся да сваіх продкаў: і да мамы з татам, і да тых, якія раней жылі. Гэта перадаецца дзецям: праз сямейныя традыцыі і нават праз стравы. І яшчэ нашы сем'і добразычлівыя, гасцінныя – недарэмна гэты год аб'яўлены ў Беларусі Годам гасціннасці.

**Падрыхтаваў Алесь ВЫСОЦКІ.**



## А ВЫ ВЕДАЕЦЕ, ШТО...

* Спалоханы чалавек лепш бачыць.

* Прусак можа пражыць без галавы 9 дзён.

* У мове эскімосаў няма слова "ўчора".

* Зямля набірае кожны дзень па 100 тон вагі за кошт касмічнага пылу.

* Чырвоны – самы распаўсюджаны колер на нацыянальных флагах.

Рэгіянальная газета. Rh.by Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 7 (981) 14.02.2014.
Друкарня ТДА "Знамение", г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення друкарскай дзейнасці №02330 /0150475 от 25.02.2009 г. Зак. 128. Падпісана ў друк у 10.00 13.02.2014.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.